№ 38 (827) 9 кастрычніка 2013
www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
# Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Алексіевіч ці Бяляцкі?

**Раней Нобелеўскія прэміі прысуджаліся толькі выхадцам з Беларусі. Цяпер у спісе рэальных прэтэндэнтаў — два беларусы.**

Старонка 2.

**«Захад-2013»: парваная бялізна, дзіравыя палаткі.**

Старонка 4.

**Ігар Логвінаў: «Альбо будзем рэгістравацца ў іншай дзяржаве»**

Старонка 3.

**Маладыя загінулі ў вясельным падарожжы ў Пакістане.**

Старонка 7.

**Івашкевіч. Герой руху за незалежнасць.**

Старонка 11.

**Дык падпісвайся!**

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

Тэндэнцыі

# Алексіевіч ці Бяляцкі?

Раней Нобелеўскія прэміі присуджаліся выхадцам з Беларусі. Цяпер у спісе рэальных прэтэндэнтаў **(старонка 9)** — два чалавекі, даруйце за штамп, прапісаныя ў Беларусі.

Гэта, як той казаў, дзве вялікія розніцы.

І яны між сабой вельмі розныя, гэтыя людзі.

Бяляцкі — падпольшчык, удзельнік барацьбы за незалежнасць, пасля — за грамадзянскія і нацыянальныя правы.

Ягоная справа жыцця мае ўніверсальную каштоўнасць: трывалы мір магчымы толькі там, дзе няма ўціску. Любы ўціск урэшце выліваецца ў нямір'е. Ягоны «твор, напісаны крывёй з сваіх грудзей», зразумелы без перакладу: каб змагчы крыўду, трэба быць гатовым нават да турмы, і нават там не здацца без бою.

Алексіевіч — літаратарка, якая прапускае праз сябе людскі боль. Думаеце, гэта лёгка? Яна, як ніхто, умее чуць чалавека, некалькімі рысамі апісаць лёс, пабачыць у чалавеку самае галоўнае так, што і ты яго бачыш, уваходзіш у ягоны дом. Вось чаму яе кнігі чытаюць і разумеюць у многіх краінах.

Нельга зрабіць выгляд, што не было той каласальнай крытыкі, якую выклікала ў беларускім інтэрнэце ўвага шведаў да Святланы Алексіевіч.

У чым карані такой крытыкі? Многім беларусам крыўдна, што Алексіевіч піша «для заходняга чытача», не для беларусаў. І выпускае свае кнігі спачатку на іншых мовах, а толькі пасля па-беларуску. Людзі баяцца, што прызнанне такога пісьменніка з Беларусі негатыўна адаб'ецца на павазе да нашай мовы — той, якую ніхто апрача нас не захавае.

Выказванні Алексіевіч таксама выклікалі спрэчкі...

Паважаю тых, хто так стараецца аб мове. Але, сябры, яна пісьменніца!

На Нобелеўскую прэмію вылучаюць не за выказванні, не за паводзіны, а за творы!

І сам я крытыкаваў яе моцна яшчэ пяць гадоў таму (і падпішуся і цяпер пад кожным радком тае крытыкі) і, можа быць, буду крытыкаваць яшчэ. Але крытыкаваў як інтэлектуала, не як літаратара!

Можна спрачацца з яе ідэямі і выказваннямі, але словам яна валодае бліскуча.

Што да мовы, то яна любіць беларускую мову і як можа падтрымлівае беларускую культуру: і радком, і грашыма. Я не сумняюся, што калі яна атрымае прэмію, яна скарыстаецца гэтай магчымасцю, каб зрабіць для мовы ўсё, што можа. Для яе мова — важная частка душы, яна ў гэтым нічым не розніцца ад вас, проста вырасла ў іншы час, у іншых умовах.

Падпішамся за Бяляцкага, парадуемся за Алексіевіч.

І Бяляцкі, і Алексіевіч аказаліся ў нобелеўскіх спісах не таму, што там хтосьці іх штурхае. Не па разнарадцы з вашынгтонскага ці стакгольмскага абкама туды людзі трапляюць. Няма такіх разнарадак — якое расчараванне для тых чырванамордых насельнікаў высокіх кабінетаў, што без разнарадак жыцця не ўяўляюць.

І Алесь, і Святлана вызначыліся! Беларусь сфармавала іх такімі якімі.

Так, лёс Бяляцкага ўсё ж не такі драматычны, як доля Малалы Юсафзай, якую забівалі, не дабілі ісламскія фанатыкі, як доля гінеколага з Конга, на якога палявалі лясныя бандыты. Так, Алексіевіч піша пра савецкага чалавека, бо ведае гэтага савецкага чалавека. Яны такія, бо Беларусь такая...

Для мяне два беларусы, такія розныя, у спісах прэтэндэнтаў на Нобелеўскую прэмію — гэта знак, што жыве Беларусь, такая розная Беларусь. Нобелеўскія лаўрэаты — такія розныя — гэта сусветная эліта, людзі, якія рухаюць гэты свет. Нават кандыдаты — таксама. І цяпер яны не толькі тут, у Беларусі, нараджаюцца, яны тут, між нас, жывуць.

Гэта гонар для нацыі, што маем Бяляцкага і Алексіевіч.

Няхай яны з'яўяцца ў нашай краіне, няхай іх будзе многа — у медыцыне, фізіцы, літаратуры, барацьбе з крыўдай. Пажадаем ім удачы — і так, таму, хто ў турме, асабліва.

Андрэй Дынько

Фотафакт

## З'явіліся новыя купюры $100

Федэральная рэзервовая сістэма ЗША ўвяла ў абарачэнне новую купюру наміналам $100 з больш высокай ступенню абароны.

На новай банкноце з'явіцца трохмерная сіняя стужка, якая будзе ўплеценая ў паперу, а не надрукаваная на ёй. Пры павароце намаляваная на банкноце чарнільніца будзе мяняць колер на зялёны. Лічба 100 у правым ніжнім куце таксама будзе змяняць колер з меднага на зялёны.

Купюру $100 найбольш падрабляюць за межамі ЗША. У 2012 годзе ў ЗША было канфіскавана падробак на суму $9,7 млн, за мяжой — $56,8 млн даляраў.

Старыя купюры застануцца ў абарачэнні.

АГ

## Вяселле на гадавіну Плошчы

**Палітвязень Алесь Малчанаў** ажэніцца на 19 снежня.

Дату вяселля не выбіралі адмыслова. «Роспіс прызначылі на 19 снежня ў ЗАГСе. Толькі праз паўгадзіны я ўцяміў аналогію з падзеямі трохгадовай даўніны», — паведаміў ён.

«Гэта звычайная дзяўчына з Барысава. Завуць яе Вольга. Мы з ёй пазнаёміліся некалькі месяцаў таму. Звялі нас агульныя інтарэсы, у нас іх шмат. Напрыклад, вельмі любім падарожнічаць», — расказаў Алесь.

Малчанаў паведаміў, што пышнай цырымоніі ладзіць не будуць. «Мы проста распішамся. Афіцыйна зарэгіструем сваё адносіны. Падарожжа на мядовы месяц пакуль не планавалі. Зразумела, вельмі хочацца кудысьці паехаць, аднак перашкаджае фінансавае пытанне — пакуль няма грошай.

Я колькі месяцаў жыву без грошай. У мяне была добрая прапанова працы ў Мінску, але праз прэвентыўны нагляд мне не дазволілі пераехаць у сталіцу. Яго здымуць толькі 13 студзеня 2014 года. Таму цяпер шукаю працу ў Барысаве».

Кірыла Хілько

### Сцісла

**Затрыманы намеснік старшыні канцэрна «Белнафтахім»**

Топ-менеджара затрымалі пасля атрымання чарговай часткі хабару за ўзгадненне аб'ёмаў перапрацоўкі спадарожных прадуктаў нафты. З лютага па кастрычнік ён нібыта атрымаў $19 тысяч. Імя затрыманага пакуль не называецца.

**«Алютэх» набыў нямецкі завод рулонных варот**

Беларуская кампанія, падкантрольная мільянеру Аляксею Жукаву, набыла Günther-Tore — нямецкага вытворцу секцыйных і рулонных варот. Таксама да «Алютэха» адышлі збытавая сетка немцаў, якая ўключае ў сябе кампаніі ў Францыі, Германіі, Аўстрыі.

**На Акрэсціна цяпер можна дасылаць лісты**

Лісты і тэлеграмы без абмежавання колькасці будуць дастаўляцца за кошт саміх адміністрацыйна арыштаваных.

**Літва адключыла расійскі «Першы канал»**

Адзін з найбуйнейшых аператараў Літвы спыніў рэтрансляцыю праграм расійскага «Першага канала» пасля перадачы «Чалавек і закон» пра падзеі 13 студзеня 1991. У ёй прыняжальна распавядалі пра трагедыю, калі савецкія вайскоўцы спрабавалі штурмаваць віленскую тэлевежу.

ЯМ

### Апытанне на nn.by

**У Пугачовай і Галкіна з'явіліся сурагатныя дзеці. Ці будуць гэтыя дзеці шчаслівымі?**

| | | |
|---|---|---|
| так | 121 | 27% |
| не | 113 | 25% |
| затое будуць багатыя | 216 | 48% |

Прагаласавала 450

Рэкамендуем

**Ці абразіла вас слова «народзец»?**

Відэаапытанка ў Мінску

**Чытайце на nn.by**

### Самае чытанае на nn.by за 2-8 кастрычніка 2013

1 Інтэрнэт-сенсацыя: літоўскі салдат развесяліў увесь свет

2 Памёр герой руху за незалежнасць Віктар Івашкевіч

3 Не бяжы, народзец, у абменнік!

4 Вучэнні «Захад-2013» вачыма прызванага на зборы

5 Чаму на Захадзе ўсё так кепска? — відэаапытанка

6 Ці абразіла вас слова «народзец»? — відэаапытанка

7 Партыя БНФ зрэагавала на «народзец» ад Лукашэнкі

8 Калі ў Беларусі зменіцца рэжым, або Паколенне Колі

9 Будні фатографа «НН»: вулічныя беларусы

10 Жыхары Тбілісі абдымаюць і цалуюць Саакашвілі па вяртанні на радзіму

# Ігар Логвінаў: «Альбо будзем рэгістравацца ў іншай дзяржаве»

У выдавецтва Ігара Логвінава **забіраюць ліцэнзію**.

Нібыта за тое, што ён быў выдаўцом альбома «Прэс-фота Беларусі — 2011». Альбом пазней прызналі экстрэмісцкім. Бо там былі здымкі з разгону Маўклівых пратэстаў таго лета. Але адкуль выдавец мог тое прадбачыць наперад? Ніколі ж раней такога не бывала.

Логвінаў захоўвае маўчанне — ён і раней ніколі не быў медыйнай фігурай — бо спадзяецца, што ўдасца выдавецтва неяк ціха ўратаваць. Але сітуацыя то во якая: раней зачынялі радыё, газеты, партыі. Цяпер дайшла чарга да кніг.

23 верасня Ігар Логвінаў атрымаў ліст за подпісам намесніцы міністра інфармацыі Ліліі Ананіч. Індывідуальны прадпрымальнік пазбаўляецца ліцэнзіі нібыта «ў сувязі з дапушчанымі грубымі парушэннямі заканадаўства аб ліцэнзаванні». Гаворка ідзе пра выпуск альбома «Прэс-фота Беларусі—2011». Таго самага, які быў прызнаны Ашмянскім судом экстрэмісцкім.

«Мы 7 кастрычніка падалі скаргу ў Міністэрства інфармацыі. Пазбаўленне ліцэнзіі было здзейснена з парушэннем нормаў. Працэдура пазбаўлення ліцэнзіі прадугледжвае пэўныя этапы, якія не былі выкананыя. Будзем чакаць адказу», — кажа Ігар Логвінаў.

Мы гаворым на ганку кнігарні «Ў». Перад гэтым Логвінаў размаўляў у сваім кабінеце з філосафам Ігарам Бабковым і пісьменнікам Паўлам Касцюкевічам, далучыліся Валянцін Акудовіч, Максім Жбанкоў. Абмяркоўвалі, што рабіць далей. Логвінаў выдаў сотні кніг найлепшых беларускіх пісьменнікаў — ад ужо прызнаных аўтараў да пачаткоўцаў. Разам з тым, выдавецтва стала цэнтрам прыцягнення і гуртавання інтэлектуалаў.

Сам Ігар Логвінаў пакуль даволі спакойна глядзіць на сітуацыю.

«Нічога страшнага пакуль не адбылося. Ну, адклікалі ліцэнзію, дык кожны дзень у кагосьці штосьці забіраюць. Альбо мы тут даб'емся справядлівасці, у Беларусі, альбо будзем рэгістравацца ў іншай дзяржаве», — кажа выдавец.

Вялікае пытанне, ці не адаб'ецца закрыццё выдавецтва на працу кнігарні «Ў», бо ў нас так часта бывае, што пачынаецца з чагосьці аднаго, а потым гэта можа зачапіць і іншыя галіны. «Кніжны гандаль пакуль не падпадае пад ліцэнзаванне».

Што рабіць з тымі кнігамі, якія чакалі выдання, а таксама з супрацоўнікамі выдавецтва. «На нейкія тэрміновыя праекты дамовіліся з партнёрамі, яны нам дапамогуць, выдадуць. Нешта, канечне, зрываецца», — кажа сп. Ігар.

Напрыканцы размовы ён кажа, што не чакаў такой вялікай падтрымкі, якая адчуваецца з усіх бакоў. «Нечакана, што падтрымкі вельмі многа. Нават «замнога», я б сказаў. Што тычыцца альбома «Прэс-фота», то гэта не была кніга, за якую я больш за ўсё перажываў».

Ніколі раней не было прэцэдэнтаў, каб зачынялі выдавецтва, кніга якой была прызнана экстрэмісцкай. Зрэшты, ніколі раней таксама не прызнавалі экстрэмізмам падборку найлепшых фатаграфій года, сабраную аўтарытэтным журы.

**Зміцер Панкавец**

**У Логвінава выходзілі кнігі найлепшых беларускіх аўтараў**





## «Аўтарытэтнае, прафесійнае выдавецтва»

Пісьменнікі, філосафы і грамадскія дзеячы — пра сітуацыю вакол выдавецтва «Логвінаў».

### «Не ўяўляю, як альбом можа быць экстрэмісцкім»

*Генадзь Бураўкін, паэт, былы прадстаўнік Беларусі ў ААН*

«Асабіста ў мяне ніякіх сувязяў з выдавецтвам «Логвінаў» не было, апроч таго, што я купляў іх кнігі. Аднак сам факт, што закрываюць аўтарытэтнае, прафесійнае выдавецтва, выклікае ў першую чаргу непаразуменне. Я не бачыў альбома «Прэс-фота-2011», аднак не ўяўляю, як фотальбом можа быць экстрэмісцкім. Таму факт закрыцця выдавецтва праз выпуск фотаальбома не можа не выклікаць абурэння».

### «Логвінаў перайшоў межы, усталяваныя дзяржавай»

*Алесь Пашкевіч, рэдактар часопіса Arche*

«Чарговы наступ дзяржавы на незалежную супольнасць. Чаму «Логвінаў»? Бо ён, магчыма, стаў шырокавядомым, своеасаблівым брэндам, і тым самым перайшоў пэўныя межы, імі ўсталяваныя. Пакуль гэта сітуацыя не да канца зразумелая, аднак рашэнне ўладаў дакладна палітычнае, як і ў выпадку з альбомам «Прэс-фота».

### «Баяцца канкурэнцыі»

*Андрэй Пачобут, журналіст*

«Логвінаў» — гэта яскравы паспяховы праект, які спрыяе развіццю незалежнай культуры, а ўлады традыцыйна варожа ставяцца да ўсяго непадкантрольнага. Я б паставіў перасьлед Логвінава ў адзін шэраг са справай Arche. Думаю, што абедзве справы замовілі ідэалагічныя службы, якія папросту баяцца канкурэнцыі ў галіне кнігавыдання».

### «Важная ўвага грамадскасці»

*Андрэй Бастунец, юрыст*

«У гэтым выпадку мы бачым выкарыстанне заканадаўства для абмежавання свабоды выказвання, якое не адпавядае ні міжнародным, ні беларускім законам. Што тут можна зрабіць? Па-першае, важная ўвага грамадскасці, нават з улікам таго, што ўлады не клапоцяцца пра грамадскую думку. Па-другое, не менш важнай будзе ўвага міжнародных арганізацыі, замежных супольнасцяў. І, што тычыцца Ігара Логвінава, трэба выкарыстоўваць наяўную прававую базу, каб абскардзіць рашэнне».

### «Закручванне гаек»

*Алесь Анціпенка, філосаф*

«Вельмі скрушная сітуацыя. Насуперак агульнай логіцы, улады выпрацавалі выкарыстоўваць рэпрэсіўныя метады да незалежнай супольнасці. У нашай эканамічнай і сацыяльнай сітуацыі, калі насельніцтва не задаволена, лагічна было б чакаць большай адкрытасці з боку ўладаў, аднак яны вырашылі дзейнічаць звыклым метадам закручвання гаек і аказаць ціск на адно з найважнейшых выдавецтваў, якое займаецца выпускам якасных інтэлектуальных кніг. У дадзенай сітуацыі варта звяртацца ва ўсе магчымыя інстытуцыі, мабілізаваць грамадскую думку. Сам я выказваю падтрымку Ігару Логвінаву».

**Юрась Ускоў**

## Цытата

### «Аднаго павесілі, другога — на кол пасадзілі»

У інтэрв'ю казахскаму тэлеканалу 24kz Аляксандр Лукашэнка нагаварыў шмат усяго цікавага.

«Усё гэта свет ужо бачыў: ад Садама Хусэйна да лівійскага прэзідэнта Муамара Кадафі. Аднаго павесілі, другога — на кол пасадзілі, расцярзалі. У Егіпце вунь звяргілі, ляжыць, як качан, мучаецца ў бальніцы чалавек, што ён кепскага зрабіў?

Вы ж паглядзіце, да чаго дагаварыліся: амерыканская нацыя, як гісторык не магу асмысліць, што гэта за нацыя такая, амерыканская, якая прысвоіла сабе права нейкай выключнасці, разумееце, чым гэта пахне? — спытаў ён карэспандэнтку. — Мы гэтую выключнасць у сярэдзіне мінулага стаго-ддзя перажылі, і яна каштавала 50 мільёнаў жыццяў».

І наогул, мяне Абама ўражвае: яшчэ нядаўна чарнаскурыя людзі ў Амерыцы рабамі былі, а сёння пра выключнасць кажа», — рэзюмаваў Лукашэнка.

## Фотафакт



3-4 кастрычніка Аляксандр Лукашэнка гасцяў у Астане. Некаторыя казахскія аналітыкі звярнулі ўвагу, што Назарбаеў паспрабаваў асцярожна выкарыстаць Беларусь у супраціве Расіі. У агульнай заяве было сказана, што Мытны саюз не можа з эканамічнага перацварыцца ў палітычны праект. Хаця, відавочна, гэта не хаўрус супраць Расіі. А часовае супадзенне інтарэсаў.

## Сцісла

### Ксёндз Лазар: Чакаю вызвалення

Ліст атрымала сястра арыштаванага ксяндза Уладзіслава Лазара Яніна. Святар напісаў, што ні ў чым не вінаваты і чакае вызвалення. Лазара абвінавачваюць у пасобніцтве ў шпіянажы. У турме ён ад 1 чэрвеня. Павел Севярынец пра Лазара — старонка 10.

### Крука сышлі з Інбелкульта

Этнографу Івану Круку не працягнулі кантракт на пасадзе рэктара Інстытута культуры Беларусі. Ён сказаў, што звальненне ніяк не звязанае са скарачэннямі.

### Расія спыняе ўвоз малочкі з Літвы

Санітарная служба з панядзелка прыпыніла пастаўкі ў Расію малочнай прадукцыі з Літвы з-за прэтэнзій да якасці, паведаміў галоўны дзяржаўны санітарны доктар Расіі Генадзь Анішчанка.

### Ірландцы за захаванне верхняй палаты

У Ірландыі хацелі эканоміць на дэпутатах. У краіне прайшоў рэферэндум аб скасаванні верхняй палаты парламента. Аднак 51% выбарцаў выказаліся за захаванне двухпалатнага парламента.

**ЗП**

# Парваная бялізна, дзіравыя палаткі, і няма пітной вады

Вучэнні «Захад-2013» вачыма відавочцы.

Вучэнні «Захад-2013» былі паказальнымі. На іх прысутнічалі кіраўнікі Беларусі і Расіі Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін. Да іх прыезду заўсёды наводзяць штучны марафет. Тым не менш, сведчанні відавочцаў сапраўды шакуюць і прымушаюць задумацца аб стане беларускага войска.

На месцы вучэнняў у якасці вайсковаабавязанага пабываў і чытач гродзенскага блога s13.ru. Ён апісвае адваротны бок вучэнняў, а дакладней, побыт прызваных на «вайну».

### «У таварыша маёра таксама ёсць дзіця»

Позвы на вучэнні грамадзяне сталі атрымліваць яшчэ ў чэрвені. Ваенкамат быў вельмі настойлівы, не трывожыў пустымі позвамі ў паштовую скрыню, рабіў адразу ў цэль — позва ў аддзел кадраў прадпрыемства, які выдае паперу ў рукі пад подпіс.

Атрымаўшы позву, аўтар гэтых радкоў не мог і падумаць, што апынецца на зборах, бо з'яўляецца адзіным карміцелем у сям'і з шасцімесячным дзіцем.

**Што належыць ваеннаабавязанаму**

- б/у штаны і кіцель. Сама форма ва ўсіх была розная. Нехта атрымаў х/б, камусьці «кавалак шкла», камусьці «арбузка», а некаторым вымытая ўшчэнт «лічбавая» форма.
- б/у боты і сланцы (многія абураліся, што даношваць будуць не боты, а чужы грыбок)
- кепка
- рамяні
- працоўны бушлат (з флікерам)
- камплект рабочага адзення (штаны і кіцель)
- рэчмяшок
- майка і трусы
- анучы
- падшыва
- палявы кацялок, лыжка, металічны кубак, біклага
- крэм для абутку, туалетная папера, мыла, мачалка
- процігаз, ААК
- спальны мяшок
- аўтамат, падсумак і 4 магазіны, штых-нож.



— Ну і што, што ў вас дзіця? У мяне вунь таксама ёсць дзіця, і ў таварыша маёра ёсць, але мы ж працуем? А наогул, адпачнеце ад сваіх, яны засумуюць па вас!

### Медагляд і алкатэст

Далей была кантрольная яўка і, уласна, сам зборны пункт, які базаваўся ў будынку Гандлёвага каледжа.

Усіх размеркавалі па брыгадам, пасля чаго чакаў невялікі медагляд. Яго сэнс заключаўся ў тым, што доктар аглядаў толькі жывот каля пупка, пасля чаго ўсім без выключэння запісаў у ліст агляду «Здаровы».

Цікавы факт. Па прыбыцці ў частку ўсім трэба было прайсці праз алкатэстар. Хлопцаў з наяўнасцю ў крыві праміле адклікалі ў бок і правялі прафілактычную гутарку, пастрашыўшы адпраўкай давідкі на працу з усімі наступствамі.

### Парваная бялізна, пратэрмінаванае мыла

Тут я трохі адступлю ад апавядання і звярну ўвагу на дробязь. Стан формы ва ўсіх аказаўся розным.

Шчаслiўчыкам дасталіся новыя камплекты, у некаторых знос формы быў каля 60%. Спадчына з СССР: зорка з сярпом і молатам, такія ж і бляхі.

Запас на складах невычэрпны.

Споднее наогул не вытрымлівае ніякай крытыкі. Пах ад бялізны быў настолькі жахлівым, што, прачнуўшыся з раніцы, я падумаў, што майкай вымылі падлогу.

Хоць гэта і не істотна, але мыла аказалася пратэрмінаваным.

Кацялок. Адкрыўшы яго, абсалютна ўсё выявілі там запасы алівы. Чым і як яго адмываць, ніхто з афіцэраў толкам патлумачыць не змог. На ачыстку спатрэбілася больш за паўрулона туалетнай паперы.

### Прыгоды пітной вады ў войску

На наступны дзень нас чакаў ранні пад'ём, прызначаны на 5 раніцы. Хуткі сняданак і а 6-й раніцы мы рассаджваліся па машынах.

Дарога да палігона заняла каля трох гадзін. Адразу па прыездзе камандзір часткі спытаў, ці ёсць які-небудзь прапановы?

Пажаданні былі: усё адразу ж папрасілі арганізаваць пітную ваду.

Але армія не была б арміяй, калі б ваду нам далі...

Камандзір дэманстратыўна паклікаў адказнага за харчзабеспячэнне і перад строем, не саромеючыся эпітэтаў і мату, загадаў яму забяспечыць асабісты склад пітной вадой.

Загад камандзіра — і мы строем ідзем па ваду. Але вады мы так і не атрымалі, бо, зайшоўшы за рог сталовай, мы даведаліся, што ваду ніхто нават і не збіраўся кіпяціць, пітной проста не было!

### 32 шыхтаванні

Першы дзень быў даволі цяжкім, пакуль асвоіліся, пакуль усё разведалі.

Больш за ўсё надакучвалі бясконцыя шыхтаванні. У першы дзень іх было 32!

Было рэальна смешна бачыць, як пры чарговым пераліку спачатку кагосьці бракавала, потым былі лішнія, і толькі з трэцяга разу ўсё нарэшце сыходзілася, хоць колькасць людзей ні разу не змянялася.

Да канца дня вадой нас так ніхто не забяспечыў. Аргументы жалезныя:

— Вы ў сталовай чай пілі?

— Пілі!

— Ну дык чаго вы яшчэ хочаце?

### Кіно пра вайну

Як ужо ўсе бачылі па ТБ, жыць нам трэба было ў лесе. Да нашага прыезду ўжо часткова быў разгорнуты лагер.

Намёт на 25 чалавек. Унутры намёта збудаваныя драўляныя нары, накрытыя матрацам. Спаць на іх трэба было, загарнуўшыся ў спальны мяшок.

Акрамя таго, намёт абсталяваны невялікай печкай-«буржуйкай», вешалкай для бушлатаў і шафкай для кацялкоў.

Першую ноч у лагеры мы пражылі сапраўды ў цалкам палявых умовах — зусім без святла. Цемра чарнюшчая, што ў лесе, што ў намёце.

Арганізацыя побыту. У нас быў так званы клуб — намёт, у якім віселі агітплакаты, ляжалі падшыўкі газет, стаяў тэлевізар. Часам пры дапамозе праектара нам паказвалі фільмы. Здагадацца нескладана — усё кіно на ваенную тэматыку.

### Сала замест масла

У лагеры былі абсталяваны і рукамыйнікі, часам з цёплай ці гарачай вадой. Сталовая ўяўляла з сябе палатку са сталамі на 40 чалавек.

Хто не паспеў заняць месца — харчаваўся на вуліцы. У дождж есці на вуліцы не так камфортна.

Харчаванне. З гарніраў за ўсе 25 сутак прапаноўваліся: рыс, грэчка, груца і макароны. Усё гэта падавалася ўперамешку з тушонкай. Дакладней, з невялікімі нітачкамі тушонкі.

На сняданак давалі стабільна счарсцвелую булку. Белы і чорны хлеб на абед, сняданак і вячэру. Таксама на сняданак і вячэру замест масла належаў кавалачак сала.

Абед быў трохі больш сытым. Тут дадавалася поліўка. Часам поліўка з бульбай. І салата са слоіка.

Часам на вячэру падавалі рыбу. Рыба — гэта кансерва сайры абоількі, падагрэтая і пададзеная з кашай, праўда, у такіх выпадках каша варылася без тушонкі. Прывыкнуць да такога рацыёну цывільнаму складана.

### Лепшыя тавары — расійскім вайскоўцам, рэшту — сваім

Часам выручала крама Ваенгандлю. Праўда, закупіцца ўдавалася далёка не заўсёды.

Па-першае, аўталаўка старалася максімальна абслужыць расійскіх вайскоўцаў, якія размяшчаліся непадалёк, а нам давозіла ўжо рэшту «раскошы».

Па-другое, рэжым прыезду аўталаўкі ў палявы лагер быў вядомы толькі работнікам Ваенгандлю. То прыедзе ў 11, то ў 13, то ў 16 гадзін.

Калі чулі, што крама прыехала, то даводзілася бегчы з усіх ног, каб купіць хоць штосьці. Інакш вымяталі ўсё.

А раз наведванне роднымі было забаронена, ды і перадачаў таксама ніхто не дазволіў, праблема аўталаўкі была вельмі актуальнай.

Бліжэй да пачатку вучэнняў наш лагер змяняўся на вачах. Сталі часцей прыязджаць розныя праверкі. Пасля адной з такіх на палігон завезлі смеццевыя кантэйнеры.

А за пару дзён да сканчэння збораў да намётаў прынеслі бакі з пітной вадой. Праўда, вады туды ніхто так і не наліў.

**s13.ru**

# Баяздольнае ядро і немэтазгоднае перабольшванне

Вайсковы аглядальнік **Аляксандр Алесін** разважае пра стан сучаснага беларускага войска.

Беларускія ўзброеныя сілы правялі галоўную вайсковую падзею года — сумесныя з Расіяй вучэнні «Захад-2013». Пакуль дзяржаўныя СМІ з помпай асвятлялі манеўры, у якіх прынялі ўдзел 10 тысяч чалавек, вайскоўцы ў інтэрнэце дзяліліся ўражаннямі пра адваротны бок «Захаду».

«У гэтым пытанні трэба выдзеліць два асобныя моманты. З аднаго боку, праблемы з аснашчэннем звычайна адчуваюць запаснікі. Гэта не навіна, яшчэ за часам СССР такое адбывалася



паўсюль. З уласнага досведу ведаю, што могуць падвезці летнія палаткі ў снежні, у якіх спаць даводзілася ледзь не на зямлі, забыцца пра «буржуйкі» і г.д. На зборах у 1980-м годзе выдавалі рыдлёўкі 1943-га года.

З іншага боку, у беларускага войска ёсць надзвычай баяздольнае ядро з падраздзяленняў спецыяльнага прызначэння, ПДВ, войскаў СПА. Узровень падрыхтоўкі і кваліфікацыі вайсковых спецыялістаў таксама высокі. Аднак наша войска выкарыстоўвае памежную арганізацыйную мадэль, якая прадугледжвае разгортванне арміі вялікіх памераў. На жаль, сродкаў на належнае забеспячэнне такога войска няма.

Я лічу, што адбываецца гэта для перабольшвання вайсковага патэнцыялу, дэманстрацыі патэнцыйнаму праціўніку, а таксама Расіі здольнасці хутка мабілізаваць войска ў 400-500 тысяч. Хоць мэтазгоднасць збору пралетараў, калгаснікаў, музыкантаў і дацэнтаў разам вельмі сумнеўная — яны могуць прачэсваць мясцовасць у пошуках невялікай колькасці тэрарыстаў.

Сучасная вайна — гэта вайна спецназу і перадавых тэхналогій. На ёй няма суцэльнай лініі фронту, а ўдары наносяцца кропкава. Добры прыклад — аперацыя ў Сербіі, падчас якой паразілі «нервовую сістэму» краіны, што пацягнула за сабой хуткую капітуляцыю. Будучыня — за кантрактным войскам, дзе працуюць спецыялісты з высокім заробкам. Зразумейце, каб карыстацца некаторымі відамі ўзбраення, сёння неабходная вышэйшая адукацыя. Тэрміновая служба не адпавядае гэтым крытэрам.

Высокае камандаванне разумее гэта. У Беларусі ствараюцца атрады спецыяльнага прызначэння, здольныя весці эфектыўныя баявыя дзеянні. На вучэннях «Захад-2013» таксама меліся элементы сучаснай вайны. Тэхнічны стан не дае нам дасягнуць узроўню сярэдняга еўрапейскага войска. Беларускае войска баяцца блізкія суседзі, аднак яно жыве за кошт спадчыны СССР. І калі гэтая тэхніка маральна і фізічна састарэе, здарыцца сур'ёзны крызіс. Бо кадры застануцца без тэхнічных сродкаў».

**Запісаў Кірыла Хілько**

# Мінская нерухомасць больш не даражэе

Цана квадратнага метра **стаіць на месцы** вось ужо месяц.

Сярэдняя цана прапановы квадратнага метра ў Мінску складае $1840. Паводле дадзеных партала Realt.by, яна ўсё яшчэ павялічваецца, але цяпер усяго на сімвалічныя $1-2 штотыдзень. Пры гэтым колькасць выстаўленых на продаж кватэр расце і апярэджвае попыт.

Рэальная цана ўгодаў меншая прыблізна на $100.

У чаканні крызісу мінчукі гатовыя аддаваць свае двухпакаёўкі ў спальных раёнах па $90 тысяч. Пасля пачатку валютнага крызісу ў 2011 цана квадратнага метра павольна падала, і гэты працэс расцягнуўся на цэлы год. І толькі пасля пачалося рэзкае падаражэнне нерухомасці.

Першыя прыкметы крызісных з'яваў на рынку нерухомасці ўжо бачныя. На другасным рынку жылля зноў з'явіліся ў продажы маласямейкі, таннейшыя за $50 тысяч. Хоць яшчэ месяц таму самая танная кватэра ў сталіцы каштавала $55 тысяч.

Ягор Марціновіч

# Беларускі бізнэс ад Чыжа да Мірнага

Рэйтынг **200 самых паспяховых бізнэсмэнаў.**

Інтэрнэт-выданне «Ежедневнік» апублікавала поўную версію рэйтынгу 200 самых уплывовых і паспяховых бізнэсмэнаў краіны. У папярэднім нумары «НН» мы прыводзілі першую дзясятку мільянераў, лідарства сярод якіх захапіў уласнік бізнэс-імперыі «Трайпл» Юрый Чыж. Побач з ім у рэйтынгу знаходзяцца Аляксандр Шакуцін, Павел Тапузідзіс, Аляксандр Машэнскі і іншыя вядомыя бізнэсмэны.

Хто ж апынуўся ў спісе за іх плычама?

Лідар леташняга топ-200 Уладзімір Пефціеў скаціўся на 12-е месца. Эксперты ўлічылі, што ён прадаў сваё галоўнае багацце, кампанію «Белтэхэкспарт». Сімвалічна, што побач з Пефціевым, гандляром зброі, стаіць Віктар Кіслы, прадавец віртуальнай зброі. Ён стваральнік камп'ютарнай гульні «Свет танкаў», у якой зарэгістраваныя больш за 55 мільёнаў чалавек па ўсім свеце. У выніку 37-гадовы мільянер скочыў у рэйтынгу з 55-га на 13-е месца.

«Героі» сярэдзіны 2000-х саступаюць месца новаму пакаленню. Уласнік сталічнага рынка «Ждановічы» Яўген Шыгалаў скаціўся з 7-га на 21-е месца, ягоны калега з «Малінаўкі» Юрый Авяр'янаў — з 13-га на 28-е.

Леташняя выручка «Света танкаў» Віктара Кіслага склала 218 мільёнаў еўра.

Дырэктара «Прыёрбанка» Сяргея Касцючэнку эксперты назвалі 34-м. Яшчэ пяць гадоў таму ён уваходзіў у пяцёрку самых уплывовых.

А вось былыя ўласнікі нацыяналізаваных «Камунаркі», «Кераміна» зніклі са спісу цалкам.

Сярод заўважных герояў новага часу — уласнік сеткі электратэхнікі «Пяты элемент» Аляксей Балабін. Па сумяшчальніцтве ён памочнік сенатара Валерыя Іванова, таго самага, якога перавялі з Беларускай каліійнай кампаніі на пасаду намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. А дырэктарам сваёй праекціровачна-будаўнічай кампаніі «Лект» Балабін узяў былога міністра архітэктуры і будаўніцтва Аляксандра Селязнёва. Цяпер мільянер ускочыў на 26-е месца з леташняга 60-га.

Эксперты «Ежедневніка» канстатуюць, што беларускі бізнэс застаецца чыста мужчынскім. Найлепшай бізнэс-вумэн названая ўласніца сеткі «Суседзі», літоўка Алма Яўнцэмене, і тая толькі на 51-м месцы.

Сярод новых асобаў у рэйтынгу варта ўзгадаць хакеіста прэзідэнцкай каманды Паўла Белага, які заняў 79-е месца. Будаўнічая кампанія «Тапас», дзе ён працуе, становіцца адным з найбуйнейшых забудоўшчыкаў Мінска.

А на 176-м месцы з'явіўся Мікалай Мірны, бацька славутага тэнісіста. У сямейным бізнэсе будаўнічыя праекты, спартыўны цэнтр, кафэ, а таксама доля ў латарэйным бізнэсе «Спортпары», выкупленая ў Прэзідэнцкага спартыўнага клуба Дзмітрыя Лукашэнкі.



Аляксей Балабін («Пяты элемент») — прадстаўнік новага пакалення беларускіх мільянераў.

TUT.BY

ЯМ

# «Еўраопт» і «Контэ Спа» — самыя прыбытковыя прыватныя кампаніі

**Беларуская чыгунка** зарабляе, як «Беларуськалій».

Міністэрства фінансаў апублікавала вынікі дзейнасці адкрытых акцыянерных таварыстваў за першае паўгоддзе 2013. Апроч таго, чыноўнікі апублікавалі фінансавыя справаздачы кампаній, якія размяшчалі аблігацыі за гэты перыяд.

«Наша Ніва» склала рэйтынг самых прыбытковых і самых стратных беларускіх прадпрыемстваў.

Традыцыйна наперадзе нафтаперапрацоўчыя заводы, якія за паўгоддзе прынеслі дзяржаве больш за $400 мільёнаў. А вось «Беларуськалій», які апошнім часам дэманструе нестабільнасць, апусціўся да ўзроўню «Белшыны» і чыгункі.

Найлепшыя сярод прыватных кампаній краіны — «Контэ Спа» і «Еўрагандаль» («Еўраопт»), якія прыносяць сваім уласнікам прыблізна па сотні мільёнаў даляраў за год.

На нізе спісу — мясакамбінаты. Яны займаюць 11 пазіцый з 20 аўтсайдараў рэйтынгу. Яшчэ некалькі гадоў таму ў падобнай сітуацыі былі малочныя прадпрыемствы.

ЯМ

**Самыя стратныя кампаніі Беларусі*:**

| | |
|---|---|
| 1. Барысаўскі мясакамбінат | $11 млн |
| 2. «Краснасельскбудматэрыялы» | $10 млн |
| 3. «Магілёўхімвалакно» | $9 млн |
| 4. Слуцкі мясакамбінат | $8 млн |
| 5. «Баранавічхлебапрадукт» | $7 млн |

*дадзеныя Міністэрства фінансаў Беларусі за студзень-чэрвень 2013, у спіс уключаныя толькі публічныя кампаніі.

**Самыя прыбытковыя кампаніі Беларусі***

| | |
|---|---|
| 1. «Нафтан» | $216 млн |
| 2. «Мазырскі НПЗ» | $191 млн |
| 3. Банк развіцця Беларусі | $138 млн |
| 4. «Беларуськалій» | $117 млн |
| 5. «Белшына» | $114 млн |
| 6. Беларуская чыгунка | $107 млн |
| 7. «Гродна Азот» | $85 млн |
| 8. «ГомельТрансНафта» | $82 млн |
| 9. Гродзенская тытунёвая фабрыка «Нёман» | $50 млн |
| 10. БелАЗ | $42 млн |
| 11. «Контэ-Спа» | $40 млн |
| 12. «Еўрагандаль» | $37 млн |
| 13. МАЗ | $30 млн |
| 14. «Белмытсервіс» | $26 млн |
| 15. Мінскі завод колавых цягачоў | $25 млн |

## Сціісла

**Стратэгія Нацбанка: дэвальвацыя па 100 рублёў на месяц**

Еўра і даляр бяруць новыя максімумы. Амерыканскую валюту прадаюць у абменніках па 9200 рублёў, а еўрапейскую — па 12500 рублёў. Выглядае на тое, што Нацбанк абраў стратэгію плаўнай дэвальвацыі, па 100 рублёў на месяц. У выніку — пачынаючы ад чэрвеня курс даляра вырас на 5%, а еўра — на 10%. Што гэта, калі не дэвальвацыя?

**Пачак цыгарэт будзе каштаваць 4 еўра**

Такія абавязацельствы накладаюць на Беларусь дамовы ў Мытным саюзе. Гэтага ўзроўню цэны мусяць дасягнуць да 2020.

**Золатавалютныя рэзервы растаюць**

За верасень запасы краіны паменелі яшчэ на $313 мільёнаў. Змяншэнне назіраецца пяты месяц запар. За гэты час ад $8,3 мільярда золатавалютных рэзерваў засталося $7,4 мільярда.

**Белтэлерадыёкампанія сышла пад «Газпрам»?**

БТ аддала свае рэкламныя продажы кампаніі «Алькасар Медыя Сэрвіс» — структуры «Газпрама». З 2014 расійцы будуць заключаць дамовы на аказанне паслуг па размяшчэнні рэкламы ў эфіры БТ. Кампанія ўжо прадае рэкламу на расійскіх каналах НТВ і ТНТ, а цяпер выйшла на беларускі рынак.

**«Мінсктрансу» кампенсуюць страты ад «Хаўера»**

Каля $5 мільёнаў былі дадаткова патрачаныя прадпрыемствам на ліквідацыю наступстваў цыклона ў сакавіку 2013 — у прыватнасці, на расчыстку дарог. Грошы выдзеленыя з бюджэту на фінансаванне выдаткаў, звязаных са стыхійнымі бедствамі, аварыямі і катастрофамі.

ЯМ

# Паскардзілася на нязроблены рамонт — давялося звольніцца

Цяпер настаўніца баіцца за **лёс сваёй прыёмнай дачкі**.

Жанна Шчарбініна з вёскі Аўсянка Горацкага раёна да нядаўняга часу працавала настаўніцай у мясцовай школе. Цяпер яна вымушана сысці з працы. Жанна баіцца, што ў яе могуць адабраць і яе прыёмную дачку.

Пра настаўніцу працы з Аўсянкі беларусы даведаліся ў канцы жніўня, калі яна звярнулася ў СМІ і паказала, у якім жудасным кабінеце даводзіцца навучаць школьнікаў.

«У гэтым кабінеце не рабілі рамонту сем гадоў. Калі я вярнулася з летняга адпачынку, ён знаходзіўся ў тым самым стане, што і раней, хоць у школе праводзіўся рамонт. Я напісала ў Міністэрства адукацыі, яны перакінулі ліст у Горацкі райвыканкам. Адтуль адказалі, што ў школе рамонт рабілі. Хоць мой кабінет ён не закрануў. Таму ў мяне не засталося іншага выбару, як звярнуцца да журналістаў», — расказвае Шчарбініна.

## Басейн не працуе, затое ягоныя работнікі заробак атрымліваюць

### Да лядовага палаца — на папутках

Жанна Шчарбініна сумяшчае працу з грамадскай дзейнасцю. Яна з'яўляецца дэпутатам Аўсянкаўскага сельскага савета і сябрам Аргкамітэта па стварэнні партыі БХД. Жанна кажа, што палітычнай дзейнасцю пачала займацца выпадкова, але небяспаспяхова. Дзякуючы яе зваротам удалося пабудаваць станцыю абезжалезвання вады ў Аўсянцы і прадухіліць узбуйненне свінагадоўчага комплексу побач з вёскай. Будаваць планавалі ў абыход экалагічнага заканадаўства.

Аднак пасля асвятлення ў СМІ сітуацыі ў школе ціск на настаўніцу ўзмацніўся. «Рамонт усё ж зрабілі, але ці гэта можна назваць рамонтам? Знізу наклеілі шпалерную стужачку, а на ўсё астатняе не звярнулі ўвагі. У кабінеце не працуе асвятленне, шыбы трухлявыя»,— кажа яна.

### Дзіўная эканомія

Кабінет, поводле Шчарбінінай, не адзіная праблема школы. «На рамонт было выдзелена 750 мільёнаў рублёў. На іх усталявалі шклопакеты ў басейн, які ўваходзіць у склад школьнага спорткомплексу. Раней гэты басейн працаваў толькі ў час ацяпляльнага сезону, а з кастрычніка 2012 ён не функцыянуе зусім! Пры гэтым сярод персанала школы застаюцца супрацоўнікі, адказныя за басейн. Напрыклад, у нас ёсць пасада хларыста. Увесь гэты час яны атрымліваюць заробак. Таксама ў каштарыс школы ўключаны заняткі па плаванні», — абураецца Жана Шчарбініна.

Дэпутатка ўжо даслала ліст у КДК з патрабаваннем разабрацца ў мэтазгоднасці выдаткоўвання грошай на ўтрыманне басейна. Сітуацыю ў калектыве Жанна таксама не называе здаровай.

«У нас звольнілася многа настаўнікаў. Цяпер у школе з 140 вучнямі працуюць 21 настаўнік і 22 тэхнічныя супрацоўнікі, хоць гэта не перашкаджае дырэктарцы пастаянна нагружаць настаўнікаў іншай працай: праполкамі клумб і суправаджэннем вучняў у аўтобусах. У выніку ў пачатку верасня я звольнілася па ўласным жаданні, бо не хацела больш знаходзіцца ў абстаноўцы непавагі да сябе», — паведамляе Жанна.

## Хібы за пяць гадоў праверак знайшлі толькі цяпер »



Так выглядаў кабінет да рамонту.



А пасля наклеілі зялёную палоску — і сказалі, што рамонт скончаны.



Жанна Шчарбініна.

### Таня ў небяспецы

Цяпер Шчарбініна на поўную стаўку працуе прыёмнай маці — яна ўжо цягам пяці гадоў выхоўвае дачку Таццяну.

«Неўзабаве пасля таго, як я напісала заяву, да мяне прыехалі правяраючыя з раённага аддзела адукацыі. Сустрэча з імі ледзь не давяла мяне да нервовага зрыву. У выніку праверкі яны напісалі пратакол, згодна з якім маёй прыёмнай дачцэ няма дзе захоўваць адзенне і канцылярскія прылады. Яны пагутарылі з ёй у школе. Не ведаю, што яны ў яе пыталі, аднак указалі, што Таня ноччу падае з двухпавярховага ложка, хоць такога ніколі не здаралася! Ды і хібы за пяць гадоў праверак чамусьці знайшлі толькі цяпер.

Да таго ж мяне абвінавацілі ў «катэгарычнай адмове браць другое прыёмнае дзіця». Насамрэч, у дамове прыёмнай маці дадалі пункт аб абавязковым другім дзіцяці — такім чынам выконваюць загад Лукашэнкі скараціць колькасць дзіцячых дамоў. Але я не магу гэта зрабіць, бо ў мяне не хапае метражу жылплошчы», — кажа Шчарбініна.

У выніку Жанна напісала тлумачальную, але ўсё ж баіцца, што чыноўнікі могуць і забраць яе прыёмную дачку. Пры гэтым праца прыёмнай маці застаецца адзіным сродкам даходу яе сям'і. «У школу я вяртацца не збіраюся, а ў вёсцы працы знайсці амаль немагчыма», — тлумачыць былая настаўніца.

Кірыла Хілько



Здымак зроблены ў будні дзень у восем вечара. Святло запаленае ў дзвюх кватэрах.

Сяргей Гудзілін

# У гіганцкім «доме Чыжа» жыве толькі адна сям'я?

Іншыя ўласнікі плацяць за пустыя пентхаўсы **па 4 мільёны** рублёў штомесяц.

«Дом Чыжа» каля Траецкага прадмесця — самы дарагі шматкватэрны дом Мінска. Квадратны метр у ім каштаваў жыльцам $3000, а цяпер многія перапрадаюць жыллё яшчэ даражэй.

Дом дабудавалі больш за год таму, але мінчукі, якія прагульваюцца ўздоўж Свіслачы, не бачаць у ім слядоў жыцця. Па вечарах гарыць вокны толькі ў дзвюх-трох кватэрах. Усе астатнія — нібы вымерлі.

У таварыстве ўласнікаў «Ля Траецкага» карэспандэнту «Рэспублікі» патлумачылі, што ў «доме Чыжа» стала жыве... ўсяго адна сям'я, якая валодае трыма зблакаванымі кватэрамі і нібыта плаціць на месяц 520 тысяч рублёў за камунальныя паслугі. Сума параўнальна невялікая, бо ў іх пакуль падлучаныя «не ўсе паслугі і разумныя сістэмы».

Насамрэч кватплата ў «Ля Траецкага» істотна большая, у васьміпакаёвых пентхаўсах гэтая сума дасягае 4 мільёны рублёў штомесяц. Зразумела, грошы налічваюцца незалежна ад таго, ці засяліліся жыльцы. Але па словах старшыні таварыства ўласнікаў Аляксандра Селівона, нават у такім элітным доме многія ўласнікі жылля не плоцяць месяцамі. Зрэшты, налічваць ім пеню так і не адважыліся.

ЯМ

# Маладажоны загінулі ў вясельным падарожжы ў Пакістане

Яны хацелі **дасягнуць прасвятлення** на Усходзе.

Кацярына Безмацерных і Аляксей Ілюшын кіраваліся аўтаспынам у Індыю. Меркавалі там нарадзіць свайго першынца.

29 верасня на поўначы Пакістана машына, у якой ехалі беларусы і падарожнік з Украіны, перакулілася і сарвалася з абрыву. Украінец паспеў выскачыць з кузава, а беларусы загінулі. Выжылі і трое пакістанцаў, якія знаходзіліся ў кабіне.

«Мы з Кацяй і Лёшам паехалі з Карымабада ў пасёлак Мінапін, планавалі схадзіць у паход да базавага лагера гары Ракапошы. Застопілі машыну, невялікі грузавічок, і паехалі. Сядзелі ў кузаве — на грузе, мяхах з мукой. Каля Мінапіна кіроўца не даў рады кіраванню, машына з'ехала з дарогі, звалілася ўніз і перакулілася. Я сядзеў ззаду і паспеў саскочыць. Яны не паспелі зрэагаваць, зваліліся ўніз», — расказаў украінец Аляксандр. Ён у той аварыі зламаў руку, іншыя пашкоджанні менш значныя.

У дзень смерці Кацярыне спаўнялася 26. Аляксей быў на два гады маладзейшы.

Кацярына Безмацерных — аўтарка «Нашай Нівы». Адзін з яркіх ейных тэкстаў — пра падарожжа ў Індыю. Яна была апантаная Азіяй. Пасля вяселля, за пару тыдняў да ад'езду, стала Ілюшынай. Два гады таму скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Працавала ў часопісах «Бярозка», «Маладосць» — на размеркаванні. Кацярына — з Мінска, Аляксей — з Гомеля. А пазнаёміліся на сустрэчы аўтаспыншчыкаў на Эльбе.

Маладая сям'я праехала Грузію, Арменію, Іран. Прыехалі ў Пакістан, адкуль меркавалі адправіцца ў Індыю. А ўжо пасля задумваліся і пра Інданезію з Камбоджай.

«Вось тут, у Пакістане (увесь час называю Пакістан Індыяй, ён для мяне відавочная Індыя), назіраю за людзьмі... Плюс еўрапейскага мыслення для мяне ў тым, што яно — крытычнае. Азіяты ўсё ж больш традыцыйныя, больш жывуць па інерцыі. Сярод іх падлеткаў непапулярна быць панкам альбо хіпі. Размаўляю з мясцовай дзяўчынкай. Увесь яе гардэроб — гэта нацыянальная вопратка «шальвар камніз» у крыху адрозных варыяцыях. І так — усё жыццё», — падзялілася ўражаннямі ад краіны Кацярына ў сваім блогу 21 верасня.

Аляксей і Кацярына былі падарожнікамі з досведам. І са сваім светапоглядам. Да таго, як пазнаёміліся, Аляксей паспеў праехаць ледзь не палову Азіі. «Лёша вучыўся ў Гомельскім універсітэце на філолага. Але толькі першыя два курсы, пасля пачаў падарожнічаць. У 2010 мы з ім былі ў доме Акадэміі вольных падарожжаў у Душанбэ (жытло здымаецца на некалькі месяцаў для падарожнікаў з розных краін, каб яны маглі камунікаваць). У 2011 паехалі ў вялікае падарожжа ў паўднёва-ўсходнюю Азію на год. Лёшаў маршрут тады выглядаў так: Каўказ-Грузія-Турцыя-Азербайджан-Казахстан-Узбекістан-Таджыкістан-Кіргізія-Кітай-Лаос-Камбоджа-Тайланд-Малайзія. Вярнуўся летась», — прыгадвае адзін з сяброў хлопца.

А Кацярына паспела паўдзельнічаць у грамадска-палітычным жыцці. Яшчэ першакурсніцай адбыла арышт за Плошчу-2006. Суддзя трапілася «гуманная» — дала толькі чацвёра сутак. Пасля выхаду стаяла пытанне аб адлічэнні з журфака БДУ. «Мы групай хацелі пайсці да дэкана, каб прасіць Кацю ўзяць на парукі, абы яе не выключалі. Але Каця забараніла нам гэта рабіць. А ў тлумачальнай на імя намесніка дэкана адкрыта напісала, што яе дастала гэтая дзяржава і хлусня, — расказвае сяброўка дзяўчыны Тамара. — Мы пасябравалі з моманту паступлення ў БДУ. Яна прайшла як пераможца алімпіяды, без экзаменаў. Каця добра вучылася і прынцыпова не спісвала. Калі выцягвала білет, але не ведала нейкае пытанне, пра гэта адразу і казала выкладчыку. Ішла на перараздачу, страчвала стыпендыю, але не спісвала».

Сям'я беларусаў ехала ў Індыю пажыць некалькі гадоў. Была і прычына — спазнаць сябе. «Дасягнуць прасвятлення — яе мэта ў жыцці. І ў Індыю за гэтым яна паехала. «Ты нясеш дабро — і свет адкажа табе дабром», — казала Каця, маўляў, з ёй не павінна нічога здарыцца. Бо яна жыла па такім прынцыпе, — працягвае Тамара. — Апошні раз бачыліся за 2-3 дні да яе ад'езду. Прасіла яе напісаць, калі яны будуць у Індыі. Я збіралася прыляцець да іх на пару тыдняў». Чакала допісу ў сацыяльных сетках, а дачакалася толькі страшнай весткі пра трагедыю.

На хвалі захаплення ўсходняй філасофіяй Кацярына стала сыраедам. І ўжо год прытрымлівалася гэтых жыццёвых прынцыпаў. «Праз год практычнага досведу, які, як і ў абсалютнай большасці, пачаў забруджвацца зрывамі, я ўсё ж лічу, што яно — моцны інструмент. Учора за цэлы дзень з'ела ўсяго толькі кілаграм вінаграду і кілаграм хурмы. І ніякага голаду. Захапляльна, як мала патрэбна часам чалавеку! І ўсё ж я не ідэалізую сыраядзенне і нават не лічу, што яно — цуд, здольны вылекаваць усе-ўсе захворванні», — напісала дзяўчына ў сваім блогу незадоўга да трагедыі.

Знаёмыя Кацярыны адзначаюць, што яна ад'язджала з міжхрыбетнікавай грыжай. На аперацыю не адважылася. Спадзявалася, што ўсё пройдзе там, на Усходзе.

А самыя блізкія расказваюць, што маладыя чакалі дзіця. Але ці то не сталі адмаўляцца ад падарожжа, ці то і меркавалі першынца нарадзіць у далёкай Індыі.

**Сяргей Макарэвіч**



Мама Аляксея адкрыла дабрачынны рахунак. Грошы патрэбныя, каб даставіць прах беларускай сям'і на радзіму. На транспартацыю адной урны патрабуецца 1650 даляраў.

Беларускія рублі. Дабрачынны рахунак № 000002 ААТ «АББ «Беларусбанк», філіял 300/155, г. Гомель, субкарэспандэнцкі рахунак №6100006619060 код 661, транзітны рахунак 3819382100255, атрымальнік Верхавых Ірына Мікалаеўна.

З пытаннямі звяртайцеся на нумар (044) 554-60-59 (Вераніка).

**Там хаваюцца баевікі**

Пакістан — краіна ў Паўднёвай Азіі. Узнікла ў 1947 пасля падзелу Брытанскай Індыі. Мяжуе з Афганістанам, Іранам, Індыяй, Кітаем. Насельніцтва — каля 193 мільёнаў чалавек. Афіцыйная рэлігія — іслам (суніты). Краіна небяспечная праз тое, што тут хаваюцца баевікі з суседняга Афганістана. У Пакістане знаходзіцца кіраўнік тэрарыстычнай арганізацыі «Аль-Каіда» Усама бэн Ладэн. Там яго і забілі ў 2011. А ў чэрвені побач з месцам, дзе загінулі беларусы, на гары Нанга-Парбат баевікі напалі на намётавы лагер замежных альпіністаў: 11 чалавек загінулі.

## Супрацоўнікі мінскага АМАПа «чысцілі» кішэні мінчукоў

**Трох спецназаўцаў затрымалі**, чацвёрты — уцёк.

Заведзена крымінальная справа супраць былых супрацоўнікаў мінскага АМАПа. Два сяржанты і два старшыя сяржанты лічыліся найлепшымі супрацоўнікамі падраздзялення. Кіраўніцтва не раз іх заахвочвала за прыкладную службу, а цяпер «выдатнікі» могуць трапіць за краты на шэсць гадоў за рабаванне.

Цікава, што праверка па падазрэнні ў «чыстцы» кішэняў мінчукоў пачалася яшчэ ў маі. Аднак справа заведзеная толькі цяпер. Пакуль ішла праверка, кіраўніцтва АМАПу звольніла сваіх «кішэннікаў» не за выяўленыя парушэнні і правіну, як звычайна робіцца ў МУС, а па пагадненні бакоў.

Праўда, скарыстаўся атрыманым часам толькі адзін падазраваны: збег і цяпер знаходзіцца ў вышуку. Іншыя затрыманыя і даюць паказанні. Пакуль у справе фігуруе толькі два эпізоды — на 3,8 мільёна і 1,5 мільёна рублёў. Аднак не выключана, што пацярпелых значна больш. Следчыя ж высвятляюць, як доўга АМАПаўцы займаліся рабаваннем.

**Паводле «Ежедневніка»**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Вышук



**Аляксандр Валюшка** падазраецца ў крадзяжы, здзейсненым паўторна альбо групай асобаў. Прыкметы: на выгляд 40 гадоў, рост 170 см, хударлявы, вочы блакітныя. Хто ведае месцазнаходжанне падазраванага, тэлефануйце на: (01512) 7-51-10, (01512) 7-51-15.



2 кастрычніка **Алена Бесман** не вярнулася з садовага таварыства «Мантажнік-2» (в. Пятрышкі, Мінскі раён) у мінскую кватэру. Прыкметы: на выгляд 35 гадоў, рост 170 см, валасы светлыя, на падбароддзі невялікі шнар. Хто ведае месцазнаходжанне зніклай, тэлефануйце на: (033) 666-68-56, (033) 666-60-33.



**Аляксандр Акуліч** 3 жніўня паехаў з Лельчыцаў у Жыткавічы прадаваць аўто і знік. Прыкметы: на выгляд 25-30 гадоў, рост 173-175 см, валасы светлыя, вочы блакітныя. Быў на «Міцубісі Харызме» серабрыстага колеру, кузаў — хетчбэк, нумар — 3ВР1450. Хто ведае месцазнаходжанне зніклага, тэлефануйце на: (029) 232-11-11 альбо 102.

### Сцісла

**Абрабавалі сына мультымільянера Шакуціна**

Рабаўнікі прадставіліся работнікамі ЖЭСа і ўвайшлі ў кватэру Аляксандра Шакуціна ў Мінску. Пасля гэтага адзін з рабаўнікоў дастаў пісталет. Яны звязалі ўсіх і вынеслі $7 тысяч, 800 індыйскіх рупій і ювелірныя вырабы (пярсцёнкі з дыяментамі, залатыя зашпілкі і срэбныя ўпрыгажэнні). Банду налётчыкаў арыштавалі: гэта трое 28-гадовых мінчукоў.

**Пусціў пажыць і застаўся без дома**

Жыхар Хойнікаў адправіўся ў Расію на заробкі, а ў свой дом пусціў пажыць сваяка. Але ў першую ж ноч той напіўся і, як мяркуюць выратавальнікі, заснуў з недапаленай цыгарэтай. У выніку дом згарэў, а гора- сваяк загінуў.

**Беларускага бізнэсмэна замовілі кілеру**

Беларус займаўся пастаўкамі мяса ў Падмаскоўе. І калі чарговы раз адправіўся ў расійскую сталіцу па справах бізнэсу, яго расстралялі па дарозе ў горадзе Балашыха.

**Пакараў сябе за забойства сябра**

Сябры рамантавалі машыну на гарадзенскім прадпрыемстве «БелТАПАЗ». Адзін з іх вырашыў паехаць на МАЗе, але наехаў на другога. Відавочцы сцвярджаюць, што мужчына выкрыкнуў, што не даруе смерць сябра, і ўсадзіў нож сабе ў грудзі.

**КМ**

# Беларускія музыканты супраць смяротнага пакарання

**«Апошні золак»** сабраў Вольскага, Вайцюшкевіча і Памідорава.

Беларускія музыкі аб'ядналіся ў супольны праект «Апошні золак», прысвечаны барацьбе за адмену смяротнага пакарання ў нашай краіне.

Беларусь застаецца апошняй краінай у Еўропе, дзе дагэтуль злачынца можа быць асуджаны на смерць.

«Пажыццёвае зняволенне ў выпадку асабліва цяжкага злачынства будзе больш слушным пакараннем», — мяркуе Лявон Вольскі. «Мастацтва з'яўляецца адным з вышэйшых праяўленняў чалавечай натуры, а смяротнае пакаранне — адным з ніжэйшых», — тлумачыць сваю пазіцыю Зміцер Вайцюшкевіч.

У песні Лявона Вольскага можна было пачуць пра ўкрыжаванне, у Ганны Хітрык пра гільяціну, а ў Зміtра Вайцюшкевіча — пра шыбеніцу. Апроч іх, заспявалі Аляксандр Памідораў, Наста Шпакоўская (Naka), Алесь Дзянісаў («Людзі на Балоце») і Віктар Рудэнка, вядомы па праектах Rostany і Dali.

Запіс канцэрта «Апошні золак» адбываўся ў Беластоку і будзе распаўсюджвацца на DVD-дысках.

**Ягор Марціновіч**




Дызайн саколак «Не — смяротнаму пакаранню» распрацаваў Уладзімір Цэслер.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Унукаў і праўнукаў Машэрава раскідала па свеце

Яны жывуць **у ЗША, Расіі, Чэхіі**, і толькі некалькі ў Беларусі.

Цікавыя жыццёвыя гісторыі пра сям'ю Машэрава сабрала «Камсамольская праўда ў Беларусі». Аказваецца, дзве ўнучкі Машэрава, дзве дачкі Наталлі Машэравай, перабраліся на жыхарства ў Чыкага.

Кацярына за акіянам з 2002 года, працуе рыэлтарам і менеджарам у нямецкай кампаніі. Тамсама жывуць і яе дзеці. Дар'і 24 гады, яна заканчвае Калумбійскі ўніверсітэт па спецыяльнасці «грамадскія сувязі». А пяцігадовая Паліна займаецца балетам і спявае ў хоры.

Другая ўнучка Машэрава, Алена, у Чыкага ўжо сем гадоў. Выкладае бальныя танцы і займаецца фларыстыкай. Разам з ёй жывуць дзве дачкі-школьніцы, а старэйшы сын Павел вучыцца ў Празе.



У Беларусі, такім чынам, жыве толькі адзін з унукаў папулярнага савецкага лідара — 29-гадовы Уладзімір, сын Наталлі. Ён скончыў факультэт міжнародных адносінаў БДУ і цяпер з'яўляецца прадпрымальнікам, выхоўвае двайнятаў.

А вось малодшая дачка Машэрава атабарылася ў Маскве. Там жа знайшоў сябе яе сын Пётр, унук кіраўніка савецкай Беларусі. Ён скончыў знакаміты МГІМО, трохі адпрацаваў расійскім дыпламатам і шчыруе ў бізнэсе.

**МБ**

# У кіроўцы аўтобуса забралі прэмію за расійскі сцяг у кабіне

А сцяг **загадалі зняць**.

Актывіст Алесь Мазанік дабіўся такога рашэння ад сталічнага аўтобуснага парка №2. Сцяг суседняй краіны кінуўся яму ў вочы ў аўтобусе маршрута №50.

Мазанік напісаў абураны ліст у аўтапарк. Неўзабаве прыйшоў адказ. Дырэктар Ігар Журок засведчыў, што падчас праверкі «выяўлена парушэнне экіпіроўкі», і паведаміў, што «кіроўцу паменшаны памер прэміяльнай аплаты за верасень 2013». Таксама ў адказе значыцца, што «парушэнне ліквідаванае».

Ігар Журок тлумачыць, што «заадно» са шкла аўтобуса прыбралі і чырвона-зялёны сцяг. Дырэктар падкрэслівае, што знялі не таму, што гэта той ці іншы сцяг, а таму, што правіламі забаронена змяшчаць на лабавым шкле старонніх прадметы ўвогуле.

З кіроўцы ўзялі тлумачэнне, чаму сцягі з'явіліся ў кабіне. «Мы ж сябруем з Расіяй, чаму я не магу павесіць?» — не зразумеў ён абурэння Мазаніка.

**Паводле Еўрарадыё**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Нешта па-беларуску,

### альбо Цвік у коране

Нехта Kus, каментуючы на сайце «Нашай Нівы» мае перадапошнія нататкі пра мову, «ykusiў»: «...ледзь не большую частку жыцця тварылі па-расейску і толькі часам нешта па-беларуску».

І зноў Амерыка, 25 жніўня 1991, з Нью-Ёрка рухаемся ў Балтымор. У дэлегацыі журналістаў маскоўцы з газеты «Труд», украінцы з розных выданняў. З Беларусі я адзін. Раптам аднекуль з'яўляецца дзіўнаватая слухаўка. «Спадарожнікавы, — ганарліва паведамляе Гліб, — можна паразмаўляць з любой кропкай планеты».

Гліб — палкоўнік ЦРУ, прафесар геаграфіі, падрабляе тым, што падстрыгае траву, бо вельмі любіць гэты занятак. Пра ЦРУ і траву мы даведаемся пазней. А пакуль ведаем, што каранямі ён з Валыні, перакладае нам з ангельскай мовы на рускую і ўкраінскую і чамусьці, захлынаючыся ад невядома скуль жалю, спявае пра «сотню юных бойцов»...

Тэлефон нарэшце трапляе да мяне, Рэпін смяецца: «Ну, давай, тэлефануй жонцы!» Але я тэлефаную Бураўкіну, на той час прадстаўніку Беларусі ў ААН. Генадзь Мікалаевіч здзіўляецца, моўчкі слухае, як весела мы рухаемся ў Балтымор, і раптам пытаецца: «Ды ты ці ведаеш навіну?!»

Праз хвіліну я крычу: «Ціха! Ціха! Беларусь абвясціла незалежнасць!» І сапраўды стала ціха. «Ну, вось, — са скрухай вымавіў Рэпін, — і магілы бацькоў без візы не наведаеш...» «Ды слухай ты яго! — усхапіўся Варламаў. — Незалежнасць... У іх нават мовы сваёй няма!» — «Як гэта — няма?» — я ўстаў і накіраваўся ў бок Варламава. «А так, дрэнная руская... Трапкай па бруху!» «Супакойцеся, — Рэпін падняўся з месца і стаў паміж намі, — не хапала яшчэ за мяжой пабіцца... А мова, Юра, у беларусаў ёсць, свая мова...»

Варламаў нешта прамармытаў, а я прыгадаў мінулую восень, сухі, да пяршоты ў горле, сонечны дзень, разварушаны танкамі палігон, пасохлую траву на выпасе і пыльны прасёлак угару, да могілак. Узабраўшыся, мы — Рэпін, ягоны брат Барыс і я — расцілаем ля магілы, дзе пахаваныя іх мама і тата,

**«Ціха! Ціха! Беларусь абвясціла незалежнасць!»**



пасцілку, разбіраем авоську з няхітрай ежай — яечкі, памідоры, цыбуліны, нешта яшчэ, сядаем на сагрэтую вераснёўскім сонейкам зямлю і пускаем па коле гранёны стакан на памін і супакой іх бацькоўскіх душ... І так штогод.

Унізе патанае ў садах Мар'іна Горка, дзе прайшло пасляваеннае дзяцінства братоў Рэпіных, дзе стаіць яшчэ тая хата, куды з Мінску перабраўся з жонкай Барыс, і родзяць дрэвы, што насадзілі бацькі... Мар'іна Горка, станцыя, калматыя вароніны гнёзды на старых бярозах, пах чыгункі, гудкі паравозаў і дарога — у Маскву, на вучобу міжнароднай журналістыцы... А потым — у Каір. А потым — у Вашынгтон, на доўгія шэсць гадоў... І той нялётны дзень, калі памерла матуля, і ён не паспеў...

Дзень, з якога пачалося наша сяброўства.

...Бойкі за мяжой, дзякуй Богу, не адбылося. А недзе ў кастрычніку прагучаў тэлефонны званок, і я пачуў сіпаваты голас Варламава: «Ты знаешь, что у Репина юбилей? Мы тут газету ему делаем, напиши поздравление другу». — «Конечно, напишу. Только на белорусском». — «На каком хочешь...»

Праз некалькі дзён я пачуў: «Что ты тут навалял?! Ничего понять невозможно!» — «Репин поймет».

У мяне няма звычкі друкаваць свае вершы, тым больш прыватныя вершы-віншаванні. Але зараз паспрабую. Ён мне самому падабаецца, той верш. І назва падабаецца — «Карані».

«Якая восень! Чырванее лес. // Прыцых на варце вартаўнік-ядловец. // Такі неперакладны ціхі змест ва ўсім. // Такая, Толя, споведзь. // Чаму ж, скажы, то стрыт, то авеню // Так вабяць нас? Але ж на сэрцы горка. // Мо быццам нейкі цвік ў караню, // Што ёсць і быў спрадвек — Мар'іна Горка... // Калі пачуцці прагнуць цішыні, // Той, што святлом крынічным льецца з небасхілу, // Не авеню нас цягнуць — карані. // Той родны кут, які табе так мілы...»

Рэпін адгукнуўся сваім вершам на беларускай мове. Там рыфмавалася «Русь — Беларусь»...

Ён быў цалкам савецкі чалавек, жыў не ў Вялікім Княстве Літоўскім, не ў Расійскай імперыі, а ў Савецкім Саюзе, і вельмі балюча ўспрыняў распад дзяржавы, у якой нарадзіўся і жыў. Імаверна яшчэ таму, што адчуваў пагрозу быць назаўжды адарваным ад Бацькаўшчыны, нават пахаваным недзе далёка. «Табе добра, — гаварыў ці то жартам, ці то ўсур'ёз, — пахаваюць побач з бацькамі. А што мне рабіць?» Мы не раз спрачаліся з ім наконт тагачасных падзей, якія можна ўжо лічыць гістарычнымі. Але ж ён ніколі не выказваў пагардлівыя адносіны да Беларусі і яе мовы. Дарэчы, ведаў ён мноства моў, ці не восем.

...Памёр Рэпін на пачатку 2000-х, у красавіку. Ад інсульту, хваробы, якой сцярогся больш за іншыя, бо вельмі страшыўся згубіць памяць. Амаль суткі па ягоным перадсмяротным пажаданні везлі аўтобусам з Масквы ў Мар'іну Горку труну з простых дошак. Да бацькоў, у родны кут.

Разам з труной прыехаў і Варламаў. Калі хавалі, трымаўся наводдаль, а па дарозе да хаты, дзе ўжо накрыты быў памінальны стол, наблізіўся да мяне.

«Ты, Сяргей... вось што... прабач мяне...»

Я запытальна паглядзеў яму ў вочы.

«Ну, за тое... у Амерыцы...»

# Букмекеры аддаюць Нобелеўскую прэмію міру пакістанскай школьніцы

Шанцы **Алеся Бяляцкага** ацэньваюць як 1 да 69.

Букмекеры вераць, што Нобелеўскую прэмію міру сёлета ў кастрычніку атрымае 15-гадовая пакістанская школьніца, праваабаронца Малала Юсафзай.

Малала праславілася тым, што пачала весці блог для службы «Бі-бі-сі» на мове урду пра жыццё пры талібах, якія з 2007 года ўсталявалі сваю ўладу ў яе роднай даліне Сват.

У кастрычніку 2012 года талібы паспрабавалі забіць дзяўчынку. Яна вярталася дадому са школы на школьным аўтобусе, яго спынілі людзі ў масках. Адзін з баевікоў зайшоў у аўтобус і стаў пытацца дзяцей, хто з іх Малала. Калі яе асоба была высветлена, таліб двойчы стрэліў у дзяўчынку, патрапіўшы ў галаву і шыю.

Адна з куль прайшла навылёт, і дзве дзяўчынкі, якія сядзелі за Малалай, таксама атрымалі па агнястрэльным раненні. Малалу даставілі ў крытычным стане ў ваенны шпіталь горада Пешавар. Пасля трохгадзіннай аперацыі хірургам удалося дастаць кулю з мозгу. Калі стан Малалы стаў стабільны, пакістанскі ўрад арганізаваў для яе авіяпералёт у Вялікабрытанію.

Дзяўчынку выратавалі дактары ў Бірмінгеме. Зараз Малала Юсафзай з сям'ёй жыве ў Брытаніі.

Па выніках 2012 года яна заняла другое месца ў рэйтынгу людзей года часопіса Time — адразу пасля прэзідэнта ЗША Барака Абамы.

Зараз каэфіцыент ставак на Юсафзай — 3 да 5. Імя лаўрэата будзе названа на наступным тыдні, 11 кастрычніка.

Сярод іншых папулярных ставак — Дэмакратычны голас Бірмы і расійская праваабаронца Людміла Аляксеева (1 да 9), інфарматар Wikileaks Брэдлі Мэнінг (1 да 19), экс-прэзідэнт ЗША Біл Клінтан (1 да 20).

Шанцы беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага букмекеры расцэньваюць як 1 да 69.

**Алег Гардзіенка**


Пакістанская дзяўчынка стала сімвалам змагання за права на адукацыю.

# Святлана Алексіевіч — чацвёртая ў букмекераў на атрыманне Нобелеўскай прэміі па літаратуры

Дзве аўтарытэтныя брытанскія букмекерскія канторы (unibet.co.uk і 888sport.com) прымаюць стаўкі на атрыманне Нобелеўскай прэміі па літаратуры.

У абодвух спісах надзвычай высокае месца займае беларуска Святлана Алексіевіч. У прагнозах букмекераў яна займае чацвёртае месца. Стаўкі на яе прымаюцца з каэфіцыентам 10 да 1.

Не так даўно выйшла новая кніга Святланы Алексіевіч «Час second hand». Кніга пабачыла свет па-расейску, па-шведску, па-нямецку. На гэтую кнігу атрыманая выдатная крытыка ў свеце.

Святлана Алексіевіч нарадзілася ў 1948 ва ўкраінскім Івана-Франкоўску. Скончыла школу ў Петрыкаўскім раёне. У яе бацька вайсковец, і яна нямала павандравала па былым СССР. Яна праславілася сваімі дакументальнымі кнігамі «У вайны — не жаночае аблічча» (1985), «Цынкавыя хлопчыкі», «Чарнобыльская малітва».

Лідзіруе ж 64-гадовы японскі пісьменнік Харукі Муракамі (4 да 1). Ён папулярны і ў Беларусі. Муракамі аўтар такіх раманаў, як «1Q84», «Кафка на пляжы», «Нарвежскі лес», «Дэнс, Дэнс, Дэнс», «Слухай песню ветра». Аднак Нобелеўскую прэмію летась ужо атрымліваў аўтар з Азіі — кітаец Мо Янь.

Імя лаўрэата будзе названа 10 кастрычніка.

**Зміцер Панкавец**

**«Час second hand»**

У мінскіх кнігарнях з'явілася новая кніга Святланы Алексіевіч "Час second hand". Яна выйшла па-расейску. Але чакаецца выданне і беларускамоўнага варыянта.

Кніга арыентаваная на расійскага і заходняга чытача. Аўтарка піша пра сябе "ў нас у рускіх" Апавядае пра распад СССР і людскую рэакцыю на яе. Піша, што з развалам СССР знікла духоўнасць, затое з'явілася 200 відаў каўбасы.

Алексіевіч працавала над кнігай шмат гадоў. Аснову кнігі, як і раней у творчасці Алексіевіч, склалі інтэрв'ю з людзьмі.



**Хто яшчэ можа атрымаць Нобеля ў літаратуры**

**1. Харукі Муракамі (Японія)**

Пладавіты аўтар. Муракамі на дзіва папулярны ва ўсім свеце. Яго шматслойныя тэксты чытаюць, як інтэлектуалы, так і масавы спажывец. Проза Муракамі вельмі меладычная, а сюжэты прадуманыя і незвычайныя.

**2. Джойс Кэрал Оўтс (ЗША)**

Вельмі папулярная ў ЗША пісьменніца. Чалавек і ягоныя перажыванні стаяць у цэнтры творчасці Оўтс. Шмат увагі яна надзяляе тэме адносін дзяцей з бацькамі. Псіхалогія чалавека ў надзвычайнай сітуацыі. Адзін з апошніх яе раманаў «Бландзінкі» быў прысвечаны Мэрлін Манро.

**3. Асія Джэбар (Алжыр)**

Шмат гадоў жыве ў Францыі. Піша аб праблемах жанчын. «Алжырская жанчына на сваёй палове дома» — стала бестселерам у Францыі. Літаратары з Афрыкі нячаста атрымлівалі Нобелеўскую ўзнагароду.

**4. Эліс Мунро (Канада)**

Малавядомая ў нашых краях пісьменніца. Трохразовы лаўрэат канадскай прэміі генерал-губернатара ў галіне фантастыкі. Канадцы называюць яе «Наш Чэхаў».

**5. Петэр Надаш (Венгрыя)**

Тэма трагедыі сярэднееўрапейскіх яўрэяў ляжыць у аснове творчасці Надаша. «Канец адной сямейнай сагі» выходзіў па-беларуску.

**6. Нгугі Ва Тхіонга (Кенія)**

Піша ў асноўным на англійскай мове. Яго актыўна перакладалі на рускую яшчэ за савецкім часам. «Чаму Тхіонга — вялікі пісьменнік Афрыкі? Бо ён піша на сур'ёзныя тэмы», — кажуць пра яго ў заходняй прэсе.

**7. Адоніс (Сірыя)**

Шмат гадоў знаходзіцца ў спісах магчымых лаўрэатаў прэміі. Адзіны паэт у спісе.

**8. Філіп Рот (ЗША)**

Класік амерыканскай літаратуры. Аўтар кнігі «Амерыканская пастараль».

**9. Амас Оз (Ізраіль)**

Ягоны род паходзіць з абшараў Вялікага кКзнайсці згадкі аб тэрыторыі сучаснай Беларусі.

**10. Умберта Эка (Італія)**

Аўтар культавых раманаў «Імя ружы», «Баўдаліна», «Ківач Фуко». Тэарэтык постмадэрнізму.

# Калі выбраць паміж Marduk і Чаргінцом, то я галасую за Чаргінца

Смерць пад музыку. Піша **Пятро Рудкоўскі**

Малады хлопец Павел забівае сваю маладую жонку і яе каханка; сячэ на кавалкі цела каханка і выкідвае ў сметніцу; галаву ягонуую кладзе ў сумку і вязе з сабой... Гэтая інфармацыя пранеслася па Беларусі і шмат каго прымусіла задумацца: што гэта было такое? Жарсная любоў? Юнацкая рэўнасць?

Але жахлівасць гэтага злачынства не ёсць тым, што найбольш уражвае ў гісторыі. Найбольш уражвае тое, што злачынства здзейснена *добрым* чалавекам. Пра гэта сведчаць школьныя настаўнікі Паўла, яго знаёмыя, выкладчыкі. Няма сумневу, што Павел рос і выхоўваўся ў атмасферы любові; яго маці — жанчына з вялікім сэрцам і прыгожай душой. На фоне ўсяго гэтага здзейсненае Паўлам злачынства, з загадкавым уласным каментаром («Так, толькі я ведаю, што там адбылося»), явіцца як дзіўнае і палохае сваёй дзіўнасцю.

На жаль, гэта не асобны выпадак. Два ці тры гады таму, таксама ў Гродне, жанчына адрэзала галаву сваёй дачцэ... І зноў жа: гэта была *добрая* жанчына, якая вельмі любіла сваю дачку і заўсёды клапацілася пра яе, некаторыя яе блізкія лічылі, што, можа, нават залішне. І такіх «дзіўных» злачынстваў нямала... Цяжка пра іх згадваць і складана пра іх расказваць.



**Пётра Рудкоўскі**

нарадзіўся ў 1978 у Канвелішках (Воранаўскі р-н Гарадзенскай вобл.). Тэолаг. Скончыў Ягелонскі ўніверсітэт. Сталы аўтар «НН» і часопіса Arche. Лаўрэат прэміі Arche «За сумленнае слова» (2005).

Прыняць проста «да ведама» такія гісторыі — мала каго задаволіць такая пазіцыя. Настойліва навязваюцца пытанні пра прычыны і фактары такіх здарэнняў. Сёй-той звяртае ўвагу на тое, што, прыкладам, Павел захапляўся музыкай блэк-метал, а на здымку ягонай жонкі бачна, што на шыі ў яе — сатанісцкі пентаграм. Таксама і ў выпадку той жанчыны, якая забіла сваю дачку, мелі месца спецыфічныя акалічнасці: за нейкі час да злачынства яна павыносіла з кватэры ўсе іконы і хрысціянскія сімвалы, а калі аднойчы яе сястра запрапанавала з'ездзіць у манастыр, каб памаліцца, адрэагавала досыць агрэсіўна.

З часоў Асветніцтва спасылка на звышнатуральныя сілы для тлумачэння якіх-кольвечы з'яваў прызнана «ненавуковай» і «сярэднявечнай». Уплыў дэманічных сіл? І гэта вы кажаце ў XXI стагоддзі?

Так, гэта кажам мы, частка абывацеляў XXI стагоддзя. Свет духаў існуе: і тых добрых духаў, якія знаходзяцца ў гармоніі з Богам, і духаў злых, якія ненавідзяць

### Уплыў дэманічных сіл? І гэта вы кажаце ў XX стагоддзі?

Бога і Ягонае стварэнне — чалавека. Аб'ект веры, а не ведаў? Што ж, можа й так, але, на маю думку, гэтая вера мае не меншыя падставы, чым, напрыклад, вера, што туманнасць Андрамеды — гэта асобная галактыка або што мільён гадоў назад жыў у Азіі Homo erectus. Як у выпадку духаў, так у выпадку іншых галактык або вымерлых відаў, мы не маем *непасрэднага* доступу да гэтых аб'ектаў. Пра іх існаванне здагадваемся на базе пэўных *слядоў* або *сімптомаў*.

Скепсіс або крытыцызм — гэта добрая рэч; яна спрыяе развіццю. Справа, аднак, у тым, што ў секулярных асяроддзях тэза аб існаванні духаў з'яўляецца не аб'ектам крытыцызму (узважанага разважання pro et contra), а аб'ектам фундаментальнага адмаўлення. Духі не існуюць. Кропка. Але гэта ўжо не крытыцызм, а пэўная форма фундаменталізму.

Секулярны фундаменталізм забараняе браць пад увагу існаванне духаў, адпаведна, сатаністкую музыку ён абавязвае трактаваць як нейтральную ў духоўным плане, якая, хай сабе й змяшчае звароты да Сатаны і праклёны на адрас Хрыста, з Сатаной не мае нічога супольнага, бо... ну, бо Сатана ж не існуе!

Гэты секулярны фундаменталізм дае аб сабе знаць і ў грамадска-культурных дэбатах. У тым ліку ў Беларусі. Цікава, дарэчы, заўважыць, як гэты фундаменталізм размяркоўваецца па лініі *рэжым — дэмакратычная супольнасць*. Беларускі рэжым, дыстанцуючыся ад усяго заходняга, па інерцыі дыстанцуецца і ад згаданага фундаменталізму. Тым часам дэмакратычна-апазіцыйная супольнасць (дзеля асцярожнасці скажам: большая яе частка), у сваім імкненні прысвойваць усё заходняе, прысвойвае згаданы фундаменталізм і робіць гэта, бадай, таксама па інерцыі. У выніку, паўстаюць досыць кур'ёзныя сітуацыі, калі Мікалай Чаргінец, пострах беларускай культуры, у пэўны момант становіцца адным з нямногіх, хто папярэджвае, што Rammstein або Marduk не маюць нічога супольнага з музычнай культурай, а з'яўляюцца носьбітамі сатанізму і ненавісніцкай ідэалогіі. Тым часам многія беларускія культурнікі і журналісты заяўляюць, што пазіцыя Чаргінца — гэта абсурдны рэйд «супраць зорак сусветнага металу»... («Зоркі», «сусветнага» — як пераканаўча гэта гучыць! Як сорамна павінны быць тым, хто выступае супраць гэтых «зорак»!)

Што ж, пагаджаюся, што Чаргінец, русафіл, чалавек наскрозь савецкай ментальнасці — гэта бяда беларускай культуры. Магчыма, ён сумнеўны таксама ў якасці эксперта па маралі. Але калі ўжо няма іншай альтэрнатывы для беларускай культуры і трэба выбраць: Marduk ці Чаргінец, то я галасую — дарэйце маю «неасвечанасць» — за Чаргінца.

Не стаўлю мэтай пераконваць каго-кольвечы да змены светапогляду. Не з'яўляюся таксама знаўцам дэманалогіі і не бяруся дыягназаваць стан Паўла на прадмет дэманічных уплываў. Выражаю ўсяго толькі перакананне, што «почырк» злачынства тут вельмі асаблівы. І што, можа быць, варта два ці тры разы добра падумаць, перш чым выступаць у абарону «сусветных зорак» тыпу Marduk...

# Беларуская глыбіня. **Сведчанне Лазара**

Піша **Павел Севярынец**.

*Я і ведаў, што Ты заўсёды пачуеш Мяне, але сказаў гэта для народа, які тут стаіць, каб паверылі, што Ты паслаў Мяне. Сказаўшы гэта, Ён ускліknуў моцным голасам: Лазар! Выходзь. Яна 11:42-43*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

У «Злачынстве і пакаранні» глыбіннага беларуса Дастаеўскага ёсць ключавая сцэна — блудніца Соня і забойца Раскольнікаў уначы, у пакоі з нізкай столлю пры свечцы чытаюць біблейскую гісторыю пра Лазара. Евангелле выварочвае душу, злачынца каецца — і пачынае шлях да выкуплення.

Ісус уваскрэсіў Лазара ў прысутнасці вялікай колькасці сведкаў на чацвёрты дзень пасля смерці, калі цела, пакладзенае ў пячоры, ужо пачало гніць і смярдзець. Многія паверылі ў Бога праз гэты цуд — але начальнікі народа менавіта тады канчаткова пастанавілі Яго забіць.

Лёгка ўявіць: для ксяндза Уладзіслава, які ўжо каторы месяц трывае ў пячоры турмы КДБ, адзінаццаты падраздзел

### Пра ксяндза Лазара маўчаць, быццам па памерлым



Евангелля паводле Яна адна з улюбёных.

Так шмат знакаў... *Лазар* — проста скразіць.

Тут ёсць і дзве сястры, Яніна і Ірына, якія, нібы Марта і Марыя, плачуць ды моляцца за брата, і вернікі, якія смуткуюць, і, вядома, начальства, якое лепш за ўсіх ведае: калі Бог раптам пачынае тварыць цуды, трэба прымаць меры.

...І цяжкое, напружанае маўчанне надае яшчэ большае падабенства евангельскай гісторыі: маўчаць, быццам па памерлым.

Менавіта ў доме Лазара, дзе ягоная сястра Марыя памазала Госпада каштоўным мірам, выціраючы ўласнымі валасамі перад укрыжаваннем, сэрца апостала Юды разадрала здрада.

Містыка справы Лазара прымушае стойваць дыханне: неўзабаве пасля ўваскрашэння пахаванага — уваход у Ерусалім.

Чаму Ісус так доўга чакаў, чаму не ішоў дапамагчы сябру ў смяротнай хваробе? Марудзіў, пакуль Лазар не памрэ, пакуль сваякі не адчуюць страты, пакуль не пераканаюцца вучні...

Цяжка пазбыцца пачуцця, што і зараз Госпад чакае, каб *дайшло*.

Каменная пячора сталінскіх часоў, куды перад смерцю памышчалі беларускіх святароў, паэтаў і дзеячаў, — у самым цэнтры сталіцы. Вось ужо тры гады менавіта яна — скрыжаванне малітваў і чаканняў, сэрца страху і пакутлівай адзіноты, у якім штодня чуюцца званы Архікатэдральнага касцёла Найвялікшай Панны Марыі з плошчы Волі.

Што хоча сказаць Ён сёння нам, беларусам, праз самоту Лазара?

Акуратны, яшчэ ў школе празваны «Панічом» за бездакорны выгляд, Уладзімір паступіў у семінарыю і стаў ксяндзом Уладзіславам. Спадчыну, сабраную для яго матуляй у залатых упрыгожаннях, абмяняў на грошы і ўклаў у будаўніцтва касцёла ў Мар'інай Горцы, куды накіравалі служыць. Ад *паніча* не засталося і следу: сам праводзіў на касцельны падворак ваду, вазіў тачкамі зямлю, высаджваў кветкі... Даводзілася самому латаць сваю адзіную куртку — усе грошы, заробленыя ці ахвяраваныя, ішлі на парафію, добраўпарадкаванне ці святочныя падарункі дзецям.

«Мы гэтага ксяндза атрымалі з неба», — казалі мар'інагорскія парафіяне.

У мінскую Катэдру, дзе малады ксёндз Уладзіслаў казаў па-беларуску, шмат хто прыходзіў адмыслова, каб паслухаць ягоную навуку.

Не баяўся казаць праўду. За гэта многія яго і ненавідзелі.

Арышт *такога* ксяндза — выклік Касцёлу ў гэткай жа ступені, у якой арышт гендырэктара «Уралкалія» — выклік Расіі, а палітвязні Плошчы — Еўропе.

Больш за тое, справа Лазара — выпрабаванне для ўсёй Царквы. Хопіць маўчаць пра тое, што творыцца ў краіне, — вось, зло ўжо прыйшло па цябе.

Госпад дапускае, каб праз пакуты і боль аднаго ўвесь Касцёл зразумеў: калі сапраўды стаіш на каленях перад Богам, а не перад дыктатарам — чакай палітычнага абвінавачвання ў замаху на царскую ўладу, абвінавачвання, вынесенага Самому Хрысту. Тутэйшаму Пілату абавязкова падкажуць: «Калі адпусціш яго — ты не сябар кесару».

Год таму дзясяткі тысячаў евангельскіх вернікаў па ўсёй Беларусі маліліся за пратэстанта Зміцера Дашкевіча, зняважанага начальнікам Мазырскай калоніі. Царква запатрабавала спыніць здзек; дзеля аднаго з'ядналіся ўсе. Тады рэжым адступіў, Змітра пакінулі ў спакоі і перавялі.

Логіка зла няўмольная: спроба прыняць яго як норму, зрабіць выгляд, што «так і трэба», або дамовіцца вядзе да параЗы дабра. Непрыняцце зла, якое выявіў Ісус, — адзінае выйсце, але куды яно вядзе, мы ўжо дзве тысячы гадоў ведаем. Яно вядзе на крыж.

Увогуле, найлепшыя беларускія ксяндзы гнілі ў турмах за праўду і краіну ўсё апошняе стагоддзе: і заснавальнік БХД Вінцэнт Гадлеўскі, што абураў улады беларускімі казанямі ў Жодзішках, і Казімір Свёнтак, абвінавачаны ў тым жа шпіянажы, і Станіслаў Лазар, пробашч Пружанскага, а потым і Берасцейскага касцёлаў, арыштаваны за прысутнасць на імшы школьнікаў ды крытыку калгасаў.

Зразумела, пасля справы Гайдукова веры ў «шпіянаж» ксяндза Уладзіслава няма.

Зразумела, родным і вернікам «хто трэба» ўвесь час падказвае, што агалоска шкодная, ціха-ціха, абы чаго горшага не было.

Ксяндзы і вернікі перашэптваюцца. *Справа Лазара* ўваскрашае ідэю актыўнай палітычнай каталіцкай сілы, якой была легендарная Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя 1920—30-х.

Штодня званы ад Катэдры б'юць, прабіваючы ва ўнутраны двор КДБ — іх чуваць у кожнай камеры «амерыканкі».

Ведай, кожны каталік, кожны хрысціянін, — гэты звон звоніць па табе.

Бо дзеля таго, каб Ісус вызваліў Лазара з затхлай пячоры, Марце трэба было паклікаць ды выйсці сустрэць Яго, Марыі: маліцца і верыць, вучням — быць побач, разам, а народу, які сабраўся суцяшаць сёстраў, — адваліць ад пячоры камень.

— Лазар! Выходзь.

І тады хай заміраe ды ахае люд, хай фарысеі да болю заплюшчваюць вочы і хай глядзіць уся краіна, як пад перазвон званоў з плошчы Волі вызваляе Бог.

*Куплін*

# Івашкевіч. Герой руху за незалежнасць

Віктар Івашкевіч памёр на 55-м годзе жыцця. Ён меў хворую пячонку, доўга чакаў донара, але не дачакаўся.

«Чаму над дзвярыма не ўзняты сцяг? Людзі за гэты сцяг у турме сядзяць!» — гучаў на ўсю ўправу Партыі БНФ голас мажнага Івашкевіча. І хтосьці з маладзейшых мітусліва кідаўся за лесвіцай-страмянкай — мацаваць на вуліцы над уваходам бел-чырвона-белае палотнішча. Офіс Народнага Фронта на Варвашэні быў у 2000-я адзіным месцам, дзе сцяг мог лунаць «законна», без рызыкі быць сарваным і спагоненым. Івашкевіч і прайшоў па жыцці як чалавек са сцягам.

Народжаны ў Мінску ў 1959-м, ён быў у моладзевым нацыянальным руху ад пачатку 1980-х. Ён браў удзел у першых напаўпадпольных незалежніцкіх суполках «Майстроўня», «Талака». З 1988 — у Беларускім Народным Фронце. Ён выступаў у Курапатах на Дзяды-1988. Ён быў арганізатарам страйкамаў на мінскіх прадпрыемствах у 1991-м. Быў рэдактарам газеты «Рабочы».

Масавыя вулічныя акцыі былі яго стыхіяй. І не масавыя таксама: у 2007-м Івашкевіч адзін выходзіў на Кастрычніцкую плошчу з двума сцягамі: нацыянальным і еўрапейскім. Шмат разоў яго арыштоўвалі. У кастрычніку 2002 Івашкевіч быў асуджаны на два гады абмежавання волі за публікацыю артыкула «Злодзей павінен сядзець у турме», у якім пракуратура ўбачыла паклёп на кіраўніка дзяржавы.

Ён быў намеснікам старшыні Партыі БНФ да 2009 года. Да лютага 2011 быў кіраўніком мінскай гарадской арганізацыі Фронту. Але ў лютым абвясціў пра выхад з партыі з-за нязгоды з пазіцыяй, якую заняў былы кандыдат у прэзідэнты Рыгор Кастусёў. Быў сябрам аргкамітэта партыі «Беларускі рух».

«Самае галоўнае — ён быў аптымістам, — кажа сябра і аднапартыец Віктара Івашкевіча, педагог Лявон Баршчэўскі. — Верыў, што магчымыя змены. Рабіў усё, каб несправядлівай улады не стала. Івашкевіч лічыў, што для гэтага трэба звяртацца да народа. Без кантакту з простымі людзьмі, рабочымі не магчымыя змены. Калі апошні раз з ім бачыліся, то, хворы, ён дзяліўся сваімі планамі выхаду на заводы».

«Калі мы толькі пачыналі як гурт, Івашкевіч дапамагаў нам рабіць нашы першыя, яшчэ аматарскія запісы, — успамінае музыка Лявон Вольскі. — Менавіта ён быў адным з першых, хто параіў нам размаўляць па-беларуску ў рэальным жыцці, за што мы яму вельмі ўдзячныя».

«У маёй памяці Віктар Івашкевіч застанецца чалавекам простым і глыбокім адначасова, — згадвае сябра кінарэжысёр Алег Дашкевіч. — Адзін з нямногіх, хто ў апазіцыйнай кагорце мысліў нестандартна, вобразна і шчыра. Да апошніх дзён ён ставіўся да жыцця з уласцівым яму пачуццём гумару, хоць гэта было ў ягоным стане складана. Чалавек, у прыватных дачыненнях з якім ты разумеў, што Віця не здасць, не прадасць, не схібіць.Чалавек, з якім можна было ісці ў разведку. Чалавек, які жыў і сышоў годна. Бывай, дружа...»

Развітанне з Віктарам Івашкевічам адбылося ў Мінску ў суботу, 5 кастрычніка. Пахавалі яго на Паўночных могілках.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Спачуванні праз nn.by

Назаўседы застанецца ў памяці марознай раніцай 21 сакавіка 2006 года на сходах Палаца прафсаюзаў. Гучыць «Магутны Божа». Віктар са светлай усмешкай, стомлены, але шчаслівы. З кійком, бо балелі ногі, але ўсю ноч на нагах. Мужны, моцны духам, шчыра беларускі, сціплы і прынцыповы Чалавек. Светлая памяць...

**Іна Кулей**

Вялікі знак-камень Героям Аршанскай перамогі на месцы традыцыйнага фэсту і першай у РБ прысягі на вернасць Беларусі ў 1992 годзе мацаваў бетонам менавіта Івашкевіч. Так што там цяпер месца памяці і Віктара. Спакою ягонай душы!

**Андрэй Мельнікаў, Гомель**

Пазнаёміўся са сп. Віктарам, калі ён знаходзіўся на хіміі ў Баранавічах. Выдатны чалавек, палітык і інтэлектуал.

**Руслан Равяка, Баранавічы**

Веру, што некалі ягоным імем будзе названа вуліца ў Мінску.

**Кнехт**

Божа! Вельмі шкада... Шчырыя спачуванні родным і блізкім...

**Святлана Панамарова, Клецк**

Адзін з нямногіх па-сапраўднаму душэўных ды адкрытых людзей у беларускім руху. І той, хто мог выйсці адзін на плошчу, са сцягам у руках. Вечная памяць!

**Касінер**

Нечаканая і смутная навіна. Спачуванні родным і блізкім.

**Дзмітрый Вінчэўскі**

Асабіста ведаў Віктара і вельмі смуткую. Вялікі быў чалавек! Вечная памяць!

**Vital Makaranka**

Беражы, Госпадзе, яго душу!

**Васіль Грыбоўскі-Гурыновіч, Міханавічы (Мінскі раён)**

Для мяне застаўся ад гэтай Асобы запавет — аптымізм. Вечная памяць.

**Вольга Караткевіч**

Апошняй яго марай было сабраць народны сход па ўсёй краіне. Спадзяюся, некалі яго мару здзейсняць!

**Lexx**

Спачуванні Стасю,усім родным і блізкім .Я ў шоку. Найцудоўнейшым быў Чалавекам.Зямля яму пухам.

**Генадзь Вінярскі**

Паказальна аперуюць хворых на пячонку, а тут... Вельмі любіла Віктара.Успаміны пра супольную працу ў летніку «Грунвальд» для беларускамоўных дзяцей — найсвятлейшыя дзякуючы Віктару, яго сыну Стасю і Арыне Вячорцы.Светлая памяць добраму чалавеку...

**Вольга Цярэшчанка, Гомель**

Цудоўны, смелы, няўрымслівы і выбітны арганізатар нацыянальна-вызвольнай справы. Такім запомніцца мне і многім, хто яго ведаў, гэты патрыёт Бацькаўшчыны!

**Уладзімір Ляхоўскі**

Беларусь страціла вернага патрыёта, а мы страцілі шчырага паплечніка. Мы будзем помніць Віктара!

**Сяржук Бахун**

Яшчэ аднаго майстроўца не стала... Вельмі рана, страшэнна рана адыходзяць сябры! Светлая памяць і спачуванні родным.

**Віялета Кавалёва, Таронта (Канада)**

Люд беларускі яшчэ прачнецца і аддасць павагу чалавеку, які не паспеў пабачыць сонца свабоды над Радзімай.

**Пётра Мурзёнак, Атава (Канада)**

Шчырыя спачуванні родным і блізкім.

**Алесь Манцэвіч**

Ščyra smutkuju... Budu pamiatać

**Vadzim Aleksandrovič**

## «Ён мог стаць беларускім Валенсам»

Культуролаг **Сяргей Харэўскі** згадвае пра свайго сябра і паплечніка Віктара Івашкевіча.

«У 1988 годзе быў ці не першы легальна дазволены мітынг. Мы выступалі супраць будаўніцтва другой лініі метро ў Верхнім горадзе, тады нам здавалася, што нічога горшага з мінскімі помнікамі культуры зрабіць не могуць.

Арганізатарам таго мітынгу быў якраз Віктар Івашкевіч. Яму не было і 30. Але ўжо тады паказаў сябе як таленавіты арганізатар. Івашкевіч заўжды быў прыхільнікам адкрытых, легальных, публічных формаў барацьбы. Мы здзівіліся тады, наколькі ён хутка дамовіўся з міліцыяй, з гарвыканкамам.

Тады мы паехалі з Віктарам Івашкевічам на Ангарскую да Зянона Станіслававіча, каб папрасіць яго выступіць на мітынгу. Пазняку нездаровілася. Іншыя старэйшыя калегі адмовіліся выступаць. Калі вярталіся заснежанымі мінскімі палямі, то Івашкевіч сказаў: «Няма выбару, Сяргей, будзеш выступаць ты. Я так добра пра гэтыя помнікі не скажу».

Менавіта Івашкевіч зрабіў з мяне і Сержука Вітушкі публічных асобаў. Абнадзеіў і ўклаў сілы. Увогуле ж, Івашкевічу падабалася такая функцыя распарадзіцеля.

Івашкевіч мог бы стаць беларускім Валенсам. Ён не паступіў з першага разу на журфак, быў рабочым, грузчыкам на чыгунцы. Усе лісты ён падпісваў як «рабочы». Памятаю нейкі маскоўскі перабудовачны часопіс, там вялікі, грунтоўны артыкул і подпіс — «Віктар Івашкевіч, рабочы».

І ён заўсёды пазіцыянаваў сябе як рабочы», а не інтэлігент. Ганарыўся гэтым. Таму яму давяралі такія самыя рабочыя, у вялікай ступені дзякуючы яму яны выходзілі на вуліцы, на пратэсты.

Памятаю, як у 1991 годзе, за некалькі месяцаў да развалу СССР, да нас у віленскую рэдакцыю «Нашай Нівы» прыехалі Віктар Івашкевіч і Алесь Бяляцкі. Трэба памятаць, што час быў цяжкі, усё па талонах-купонах, нічога не дастаць. Але Віктар дзесьці знайшоў пару кілаграмаў сасісак. У рэдакцыі не было ніякага посуду. Івашкевіч тады сказаў: «Вядро!» Прамыў, скіпяціў. Памятаю твар Сяргея Дубаўца, які пабачыў, феерычнае відовішча. Здавалася, тых сасісак хопіць на тыдзень, а з'елі ўсё ў адзін прысест.

Пару разоў мы хадзілі з Івашкевічам у байдарачныя паходы. Віктар любіў простую ежу, без далікатэсаў. Я ж заўсёды спрабаваў нешта кулінарыць, эксперыментаваць. Памятаю як дадаў прыправ у рысавую кашу. Віктар падзякаваў, далікатна сказаў, што было смачна, але было ў кашы нешта такое, чаго магло і не быць.

У іншы паход мы пайшлі на Нёман. Там з намі быў і сын Віктара — Стась. Плынь яго панесла, мы ўжо былі гатовыя сігануць у ваду, каб дастаць хлопца, але Івашкевіч сказаў: «Не трэба, хай сам выплывае». Ён быў педагог, даваў сыну такое выхаванне, каб з жыццёвых віроў ён выплываў сам.

Івашкевіч — гэта чалавек гумару, пры ім мы заўсёды рагаталі да слёз. У змрочныя 1994-1996 Віктар заўсёды ўмеў знаходзіць такі ракурс, каб пабачыць падзеі ў пазітыўным святле, умеў усіх натхніць. Ні пра каго не зласловіў за спінай. У яго шчырасці не сумняваўся ніхто».

**Запісаў Зміцер Панкавец**

## Норберт Рандаў

Славіст, перакладчык Быкава і Гарэцкага Норберт Рандаў сышоў з жыцця 1 кастрычніка.

У часы Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі Рандаў правёў тры гады — з 1962 па 1965 — у зняволенні за «антыдзяржаўныя падбухторванні» і «дапамогу нелегальнай эміграцыі». Падчас ягонага зняволення сястра Рандаў, Гундула, выйшла замуж за беларуса Уладзіміра Чапегу.

Праз знаёмства са шваграм Рандаў зацікавіўся беларускай літаратурай — большасць перакладаў яны рабілі разам. Рандаў перакладаў творы Коласа, Купалы, Гаруна, Гарэцкага і Быкава, з якім быў асабіста знаёмы. Сярод знаёмых Рандава былі Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль, Алесь Разанаў, Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў.

У 2003 годзе Рандаў дапамог у знаходцы ў нямецкім горадзе Гёрліц асобніка Бібліі Францішка Скарыны і пазней выступіў з навуковым дакладам з гэтай нагоды.

Яго пераклад аповесці Максіма Гарэцкага «Дзве душы», якую Рандаў лічыў ключавой у нашай літаратуры, дагэтуль не выдадзены. «Гэта скандал, што мы на Захадзе нагэтулькі сляпыя ў дачыненні да беларускай літаратуры, якая ёсць неад'емнай часткай еўрапейскай культурнай гісторыі», — цытуе яго словы нямецкі журналіст Інга Пэтц.

**Паводле радыё «Свабода»**

# Асуджаныя

За што каралі смерцю сялян-паўстанцаў у 1863-м. Піша **Васіль Герасімчык**.



Падлікі даюць розныя лічбы. Польскі гісторык Веслаў Кабан кажа пра 55% сялян сярод паўстанцаў. (Ён аналізуе спісы сялян, сасланых у Сібір.) У нашай гістарычнай навуцы прынятыя за аснову падлікі гісторыка Сусаны Самбук: 18% сялян сярод паўстанцаў. З іх 33% прыходзіліся на Гарадзеншчыну, 27% на беларускія паветы Віленскай губерні, 20% на Мінскую, 13% на Магілёўскую, 7% на Віцебскую.

Яшчэ адзін крытэр — сацыяльнае паходжанне паўстанцаў, пакараных смерцю. З 180 асоб з тэрыторыі сённяшняй Беларусі, Літвы і Беласточчыны 43 — сяляне, што складае каля 24%.

Але ўсе лічбы недакладныя. Бо спецыяльны царскі цыркуляр дазваляў не караць сялян, якія на судзе паказвалі пакаянне, гаварылі, што ўдзельнічалі ў паўстанні пад прымусам. Не можа наяўная статыстыка і паказаць сітуацыю ў кожным з дзеючых атрадаў. І апошняе: немагчыма вызначыць, колькі сялян было забіта і паранена ў сутычках. Іх імёны зніклі разам з імі.

Пішуць пра дапамогу сялянаў уладам. Але пра тое, што сяляне, якія выдавалі паўстанцаў, атрымлівалі за гэта грошы, звычайна «забываюць».

Каб стварыць максімальна блізкую да рэчаіснасці 1863-га карціну падзей, трэба ўлічваць факты падтрымкі сялянамі як паўстанцаў, так і расейскіх уладаў. І адказаць на пытанне: чаму так адбывалася. Паспрабаваць зірнуць на падзеі вачыма тутэйшага селяніна, якому былі далёкія як ідэя «аднаўлення Рэчы Паспалітай», так і змаганне з «польскай інтрыгай».

Нам вядомыя імёны сялян, пакараных смерцю ў межах сучаснай Беларусі. Паспрабуем пабачыць паўстанне праз іх лёсы.

### Дэзерцір Адамовіч

15 чэрвеня 1863 у Брэсце быў расстраляны збеглы з войска Станіслаў Адамовіч. Адамовіч паходзіў з сям'і збяднелага шляхціча Люцынскага павета Віцебскай губерні, які ў часы разбору шляхты не здолеў пацвердзіць свае правы і быў залічаны да сялян.



**Васіль Герасімчык**

Гісторык. Нар. 1987. Скончыў Гродзенскі ўніверсітэт, магістратуру Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта і Торунскага ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка. Пераможца конкурсу «Найлепшы знаўца паўстання Кастуся Каліноўскага».

Адамовіча забралі ў салдаты, ён неаднаразова збягаў — беспаспяхова. Пашанцавала толькі ў 1863-м, падчас маршу яго Мурамскага палка пяхоты паміж Варшавай і Гроднам. Ён далучыўся да паўстанцаў, браў удзел у нападзе на пінскі паштовы экіпаж, спаленні моста праз Ясельду, у захопе Пружанаў і забойстве двух салдат інваліднай каманды. Пасля разгрому атрада Адамовіч быў схоплены і павінен быў атрымаць 11 гадоў катаргі. Але Мураўёў уласнаручна змяніў прысуд на расстрэл.

За што жорсткі прысуд шараговаму дэзерціру? Мураўёў, відаць, разумеў, што дысцыпліну ў войску неабходна трымаць любым коштам. Войска ж складалася з рэкрутаваных сялян, да якіх паўстанцы ўвесь час шукалі падыход... Гэтым абумоўлены і жорсткі прысуд часова звольненаму драгуну Яну Жмачынскаму, які быў расстраляны ў Мінску.

### Букет ад Камілы

32-гадовы Жмачынскі належаў да ліку «вольных людзей» на землях графа Эмерыка Чапскага ў Мінскай губерні. У 1855—1859 ён служыў у Лейб-драгунскім маскоўскім палку, пасля быў часова звольнены. З пачаткам паўстання на Міншчыне ўступіў у атрад Антона Трусава, які напярэдадні паўстання ўзначальваў грамадзянскую адміністрацыю Мінскага ваяводства. Трусаў насіў сялянскую світку і казаў, што яго мэта — «даснягнуць роўнасці ў класах народа».

У складзе атрада Жмачынскі знаходзіўся ўсяго два тыдні: у баі каля вёскі Сініла ён і яшчэ сямёра паўстанцаў (шэсць чыноўнікаў мінскага суда і адзін кантаніст [габрэйскі хлопчык, забраны ў рэкруты]) трапілі ў палон. Падчас следства Жмачынскі намагаўся ўратаваць сябе: казаў, што яго напалі гарэлкай і завялі ў лес, дзе, баючыся за сваё жыццё, ён прысягнуў на вернасць паўстанню.

Суд даў яму 6 гадоў катаргі. Але Мураўёў уласнаручна змяніў прысуд на расстрэл.

Як апісвалі відавочцы, калі Жмачынскага вялі на страту, «дваранка Каміла Марцінкевіч, якая займалася навучаннем дзяцей, кінула з акна злачынцу букет кветак, патлумачыўшы пазней, што яна заўсёды зрабіла б гэта. Дзяўчына Марцінкевіч ёсць тая самая, якая ў 1861 г. першая заспявала рэвалюцыйны гімн і з акна яе кватэры ў час прагулкі быў абліты з урыльніка губернатар Келер». Так, Каміла Марцінкевіч — дачка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

### Швейк 1863-га

Яшчэ адзін салдат — 41-гадовы Юзаф Урбановіч — быў растраляны ў Гродне праз чатыры дні пасля павешанага ў Вільні Кастуся Каліноўскага.

Урбановіч нарадзіўся ў вёсцы Дзвір Новааляксандраўскага павета на тэрыторыі сённяшняй Літвы. У расейскім войску ён быў конюхам Капорскага палка пяхоты. Калі яго полк знаходзіўся ў мястэчку Пільвішкі Аўгустоўскай губерні, Урбановіч запатрабаваў сабе стрэльбу для абароны ад магчымага нападу паўстанцаў. Атрымаўшы яе, у той жа дзень збег і далучыўся да атрада Калыскі. Тры месяцы Урбановіч змагаўся супраць расейскіх войскаў, пакуль у адной з сутычак не быў схоплены.

На допытах ён не назваў ні прозвішчаў паўстанцаў, ні прозвішчаў тых, хто ім дапамагаў. Ваенна-следчая камісія прыгаварыла Урбановіча да расстрэлу, але хадайнічала «аб змякчэнні Урбановічу пакарання па абсалютнай яго разумовай неразвітасці». Аднак Мураўёў не саступіў і тут.

Расстрэл Урбановіча апісаў расійскі вайсковы лекар І. Мітрапольскі. «[Брама] хутка адкрылася і я ўбачыў асуджанага. Бледны, з мутнымі, нежывымі вачыма, несамавіты, нізенькага росту, падтрыманы салдатам, ён, здавалася, не ўсведамляў, што з ім адбываецца, і рухаўся машынальна. Раздалася каманда; асуджанага акружылі салдаты; каля яго з'явіўся ксёндз з крыжам і кнігаю ў руках, і картэж рушыў... Што мог гаварыць ксёндз паляку, які ішоў на пакаранне смерцю за польскую справу? Не аб раскаянні, вядома, не аб прабачэнні здзейсненага злачынства тут магла ісці гаворка, а аб вянку пакутніцкім, арэоле славы, аб малітвах і дабраславенні Айчыны, пра тое, што дае чалавеку моц не толькі без страху, але і радасна сустракаць смерць...

Паказаўся слуп, і перад ім выкапаная яма; раздалася каманда, узялі на каравул, прачыталі прысуд і прыступілі да апошняй падрыхтоўкі асуджанага. Я падышоў у гэты час да камандуючага цырымоніяй штаб-афіцэра і спытаў яго, які тут мой абавязак? «Калі памрэ, паглядзіце, ці жывы»...

Грымнулі, як адзін, дванаццаць стрэлаў, і прывязаны да слупа чалавек, уздрыгнуўшы, здаецца, кожным мускулам свайго цела, схіліў галаву. Я падышоў да яго, падняў уверх павязку і зірнуў у збялелы, з заплюшчанымі вачыма твар, па якім прабягалі яшчэ дробныя сутаргі. І твар гэты застаўся ў памяці маёй да цяперашняга часу.

Закрыўшы яго зноў павязкаю, я падышоў да афіцэра павольным крокам, таму што ногі мае дрэнна мяне слухаліся, прыклаў руку да брыля і адрапартаваў: «Мёртвы!» Ці гэтае слова само па сабе, ці тон, якім яно было вымаўлена, а можа быць, і выгляд мой, які выказваў глыбокае нервовае ўзрушанне, прымусілі афіцэра здрыгануцца і адвярнуцца ад мяне...»

Расстрэл Урбановіча адбыўся ў Гродне за Скідальскай заставай, дзе ён спачатку і быў пахаваны. На гэты конт гісторык Алесь Радзюк знайшоў цікавы дакумент: «Цела Урбановіча перададзена зямлі на месцы пакарання, а 10-й гадзіне ўвечары ў той жа дзень па распараджэнні паліцмайстра перавезена ў суседні лес...».

### Прапагандысты Цюхна і Талінскі

Два гады пасля адмены прыгоннага права беларускія сяляне чакалі рэальных зменаў свайго стану — перадачы зямлі ва ўласнасць без патрэбы адпрацоўкі павіннасцяў на карысць пана.

А на вёсках ішлі пагалоскі пра паўстанне. Яго пашыралі пераапранутыя ў вясковае адзенне рэвалюцыянеры: Кастусь Каліноўскі (вядомы пад мянушкай Васіль Світка), Фелікс Ражанскі, іншыя. Былі сярод прапагандыстаў і сяляне. Адзін з іх, Мацей Цюхна са Слонімскага павета, па загадзе Мураўёва быў расстраляны ў Саколцы за заклік да паўстання і чытанне перад сялянамі паўстанцкага маніфеста. Яшчэ адзін селянін, 32-гадовы Дамінік Талінскі з вёскі Жаўткі Беластоцкага павета, быў страчаны ў Гродне за падбухторванне да паўстання і ўдзел у павешанні лесніка Юстыновіча.

### Чацвёра павешаных за святара

Надзею на тое, што новы царскі маніфест усё ж будзе, спрабавалі абуджаць у сялянах праваслаўныя святары. Яны вінавацілі паноў ва ўсіх бедах вяскоўцаў і падтрымлівалі легенду пра «добрага цара-бацюшку». Нездарма атрады, створаныя абшарнікамі, вылучаліся жорсткасцю ў дачыненні да святароў. Сярод іх — атрад, арганізаваны памешчыкам Баляславам Свентарэцкім у яго маёнтку Багушэвічы.

Свентарэцкі 1 мая 1863 прыйшоў у валасное праўленне маёнтка, сарваў са сцяны партрэт Аляксандра ІІ і абвясціў сялянам, што з гэтага часу аднаўлена Рэч Паспалітая. Яго атрад, нягледзячы на ўпартыя дзеянні супраць расейцаў, не меў шырокай падтрымкі ў сялян, сярод якіх быў моцным аўтарытэт святароў. Асабліва актыўна супраць паўстання выступаў святар з Багушэвічаў Даніл Канапасевіч.

4 чэрвеня 1863 паўстанцы выцягнулі Канапасевіча на двор і павесілі на перакладзіне брамы. У хаце заставаліся жонка і трое малых. Праз паўгода ў гэтай жа вёсцы былі павешаныя чацвёра ўдзельнікаў таго пакарання: шляхціцы Баляслаў Юзаф Акуліч і Альбін Тальшэўскі і мясцовыя сяляне Аляксандр Падалецкі і Якуб Саковіч, лёкай Свентарэцкага.

### Тэрорам на тэрор

Расейскія ўлады на заключным этапе паўстання ператваралі барацьбу з ім у сімвалічны акт «вока за вока»: паўстанцаў каралі на месцы ўчыненых імі забойстваў расейскіх служачых. Так было ў Кобрыне, Багушэвічах, Шарашове Пружанскага павета. У кожным з пералічаных выпадкаў сярод пакараных былі сяляне.

17 кастрычніка ў Кобрыне на плошчы былі павешаныя шляхціч Фелікс Пятроўскі і сяляне Фелікс Гарушэўскі і Тэдор Трафімчук. Трафімчук з Бельскага павета браў удзел у бітве пад Мілавідамі. Пазней быў схоплены і абівінавачаны, у дадатак да знаходжання ў паўстанцкім атрадзе і змагання з расейскімі войскамі, у павешанні дэмісаванага салдата.

Гарушэўскі, народжаны ў сям'і селяніна вёскі Лясковічы Пружанскага павета, прызнаў удзел у бітвах з расейцамі, але адмаўляў удзел у павешанні двух аддадзеных расейскім уладам сялян і гвалце над вясковай дзяўчынай.

Яшчэ адзін селянін Пружанскага павета, 19-гадовы праваслаўны Ян Грынчук з фальваркавай абслугі маёнтка Свадбічы, далучыўся да паўстання са сваім аканомам Багуславам Ількоўскім. Ён змагаўся ў атрадах Улодка і Урублеўскага. Восенню 1863 Грынчук з шасцю таварышамі ўтварыў суполку жандараў-вешальнікаў, якая ладзіла падпалы і рабункі хат расейскіх чыноўнікаў, а таксама здзейсніла павешанне габрэя ў Шарашове.

На следстве Грынчук прызнаў свой удзел у гэтых акцыях і быў асуджаны на расстрэл. Суд «з увагі на маладосць і неразвітасць, поўнае раскаянне і выкрыццё саўдзельнікаў» прасіў аб памілаванні. Але Мураўёў падпісаў асуджэнне на смерць Грынчука разам з Антоніем Ількоўскім і Саламонам Аўгустам ёмістым словам «согласен». 20 снежня ў мястэчку Шарашова яны былі павешаныя.

Як бачым, сярод сялянаў, якія далучыліся да паўстання, былі і вайскоўцы, і ідэйныя пісьменныя актывісты, і людзі з крымінальнымі схільнасцямі. Былі маладыя і старыя, былі разумныя і «неразвітыя». У атрады яны прыйшлі рознымі шляхамі. Па-рознаму і смерць сустракалі. Не скажаш, што шчырыя манархісты, падманутыя «польскімі інтрыганамі».

**Аляксандр Апон.** Казка.

# Пошасць

*Асобы:*
*Турзік, сабака.*
*Пушок, кот.*
*Свінка.*
*Парсючок.*
*Гусак.*
*Певень.*
*Гаспадар.*
*Гаспадыня.*

*Сялянскі падворак. У загародцы ля хлява Свінка і Парсючок, якія палуднуюць з аднаго карыта.*

Парсючок: Ням-ням-ням, вой, як смачна!

Свінка: Дай мне пакаштававаць.

Парсючок: Яшчэ чаго! Еш, нямням, са свайго боку.

Свінка: А я хачу з твайго! *(Хапае парсючка зубамі за вуха.)*

Парсючок: І-і-і... *(Адскоквае ад карыта.)*

*Да загародкі падыходзяць Турзік і Пушок.*

Пушок: Што яны там зноў сварацца?

Турзік: Вядома што: бульбіну не падзялілі.

Пушок: Я бульбу не люблю.

Турзік: Я таксама, а ім, бачыш, як смакуе.

Пушок: Хай сабе апошні раз парадуюцца. Шкада мне іх.

Турзік: І мне.

Пушок: Асабліва кілбас.

Турзік: Якіх кілбас?

Пушок: Пальцам пханых.

Турзік. А!

Пушок: Ужо што я да іх ласы, дык не перадаць! Колькі разоў па пысе анучай ад гаспадыні атрымліваў — не злічыць, але не магу даць сабе рады — і ўсё тут. Дзе якую кілбасу носам пачую ці ўбачу вачыма, дык чыста розум губляю. Летась гаспадыня на гарышчы, пад страхой, у кошыку кілбасы падвесіла, дык я дзірку ў вечку пачаў прагрызаць. Ноч грызу, другую. Іклы сабе зламаў бы, каб гаспадыня не агледзела. І яшчэ: добра, што на мышэй падумала, а то прыйшоў бы мне амэн.

Турзік: А я больш косткі люблю. Грызеш, бывала, грызеш... Эх, як цяпер, Пушок, жыць будзем, чым цешыцца?

Пушок: Так, благія часы надышлі.

Турзік: І не кажы.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

*Падыходзіць Гусак.*

Гусак: А вось і не благія, а наадварот.

Турзік: Гэта чаму?

Гусак: Бо нас замест свіней будуць разводзіць, дык наш род ого-го як падымецца.

*Міма праходзіць Певень.*

Турзік *(праводзячы Пеўня вачыма)*: Падымецеся, падымецеся, калі курыны грып не падсячэ...

Певень: Дзе курыны грып? *(Круціць галавой.)* Каравул! Ратуйся хто можа! *(Ляціць з усіх ног прэч.)*

Турзік: ...ці якая іншая пошасць не прычэпіцца.

Пушок: А я ў тэлевізары...

Турзік *(перапыняючы)*: Што гэта такое — тэлевізар?

Пушок: Скрыня такая, у гаспадароў у хаце стаіць, якая гаворыць і паказвае.

Турзік: Што гаворыць і паказвае?

Пушок: Рознае.

Турзік: І што там?

Пушок: А тое, што будуць разводзіць нейкіх штраусаў ці травусаў, я не дачуў.

Турзік: Можа трусоў?

Пушок: Не, не трусоў, я трусоў ведаю. А гэта такая птушка, накшталт нашага індыка, толькі вялікая, ростам вышэйшая за гаспадароў.

Турзік: Страхоцце якое! Мяне гэтыя індыкі да таго замардавалі, што я на іх глядзець без агіды не магу — пойдуць за блізкі свет, а пасля мы з гаспадыняй бегаем, высалапіўшы языкі, шукаем па ўсёй вёсцы, а яны то на плоце дзе ўмасцяцца, то на дрэва заляцяць. А як жа мы гэтым штраусам, ці як іх там, рады дамо? Яны ж, чаго добрага, у вырай выправяцца, дзе ж мы іх у тым выраі шукацьмем? Кароў куды лягчэй было пасвіць. Збярэм з гаспадаром на золку статак, на пашу яго загонім і ўвесь дзень ляжым сабе пасля, дрэмлем. Гаспадар чарку за каўнер залье, салам з цыбуляй закусіць, ну і пра мяне, вядома, не забудзецца. Мне, праўда, цыбуля не надта каб смакавала, пажуюпажую крыху дзеля вітамінаў — і выплюну. А вось сала! Эх, жыццё было — маліна!

Пушок: А малако? Я малака ад пуза, як не ў сябе напіваўся. Раніцай і вечарам бляшанку гаспадыня з берагамі налівала. А цяпер што? Колькі з тае казы малака? Казаць смешна — гаспадыня ў конаўку доіць. А мне гэтулькі дастаецца, што вусы толькі абмочыш. Адно расстройства. Я ўжо нават не хаджу глядзець, як яно цыркае: баюся, каб сэрца знячэўку не спынілася.

Турзік: Мне, шчыра кажучы, гэтая каза таксама недаспадобы.

Пушок: А што такое?

Турзік: У гарод тут надысь залезла, дык гаспадыня мяне абвінавацiла: «Куды, — кажа, — глядзіш, морда?» Але хіба я вінаваты, калі ёй слова, а яна мне — два ў адказ. Хацеў ужо быў цяпнуць для парадку за лытку, каб меса ведала, дык — што ты, Пушок, думаеш? — рогі наставіла, скаціна!

*Звонку, з вуліцы, чуваць чалавечыя галасы, лямант, гул машыны, свінячы віск. З хаты выходзяць гаспадар і гаспадыня.*

Гаспадар: Вось і да нас чарга дайшла.

Гаспадыня: Я іх не аддам, нізавошта! Я іх з сусолкі выкормлівала, начэй не спала, песціла, як родных дзетак!

Гаспадар: Кінь, дурніца, пугай абух не пераб'еш.

Гаспадыня: Грошы пазабіралі, а цяпер скварку з рота думаюць выхапіць! Не аддам, хай пацалуюць мяне ў сраку!

Гаспадар: Сціхні, баба!

Гаспадыня: Што сціхні, чаму? *(Злослiва.)* Але пачакай, дойдзе і да чаркі.

Гаспадар: Да чаркі? Ды я ім!.. Ды я іх! *(Круціць кулакі.)*

Гаспадыня *(убок)*: Вой, дай божа нашаму цяляці ваўка зваяваці.

*Гаспадар і гаспадыня выходзяць на вуліцу.*

Пушок: Слухай, Турзік, давай, пакуль не позна, рабіць адсюль ногі.

Турзік: Маеш, Пушок, рацыю: гайда куды зашыемся.

Пушок *(да Гусака)*: І ты хавайся, да бяды нядоўга, патрапіш яшчэ пад гарачую руку.

Гусак: Не, я племянны, на развод.

Пушок: Бачылі мы ўжо такіх племянных. Але глядзі сам, мы цябе папярэдзілі.

*Пушок і Турзік сыходзяць. Чалавечыя галасы, якія даносіліся з вуліцы, а таксама лямант, гул машыны, свінячы віск узмацняюцца.*

Парсючок: Эх, добра пад'елі.

Свінка: Але, смачна! *(Падымае галаву.)* Гэй, гусак, а што там за гармідар?

Гусак: Нейкіх, гавораць, штраусаў прывезлі.

Свінка: Адкуль прывезлі?

Гусак: З выраю.

Свінка: Вось што!

Парсючок *(тыцнуўшы Свінку лычом у бок і пазяхнуўшы)*: Давай ужо класціся. *(Валіцца каля карыта.)* Паспім да вячэры.

Свінка: Не, пачакай, нейкае ў мяне нядобрае прадчуванне.

*Канец*

**Аляксандр Апон**

пісьменнік. Жыве ў Гродне. Зарабляе на жыццё прадпрымальніцтвам.

Усевалад Сцебурака

## Восеньскае вечнае

Пакуль не бачу я ні старасці, ні смерці
Ды адчуваю позіркі ў мой бок.
Мой Бог,
Ад іх увагі немагчыма не памерці —
Такім паненкам хто калі адмовіць змог?

Яны глядзяць здалёк. Пад іх паглядам
Глыбеюць зморшчыны, сівеюць валасы.
І зайчык сонечны блішчыць з-за далягляду
Ад бездакорна вострай касы.

Ляціць насустрач у пошуку спагады,
Руку цалуе, як шчаня, крадком.
Ён напалоханы і адраваца рады
Ад тых двох з вусцішным халадком…

Я забываюся на ўсё ад ласкі промняў.
Пакуль ляжым не мы, нясуць не нас.
Чарга надыдзе, і я ўсё ўспомню.
У свой час.

**Як ёсць**

# Пра маці, або Што дзелаць?

Еду ў «сотцы» ад пл. Незалежнасці да ст. метро «Маскоўская». Побач стаіць іншагародні студэнт з мамай, якая, мяркуючы па размове, якую нельга было не пачуць, прыехала да сына ў госці.

Сын па ходу паказвае маме месцы баявой славы. Лупіць пры гэтым на трасянцы.

«Тут мы з Калянам плітку разгружалі (паказвае рукой у бок будынка КДБ). Паабішчалі па сто тысяч за пітнаццаць мінут работы».

«Заплацілі хоць?» — пытае мама (ведала б, што там за ўстанова).

«Да, толька палавіну».

«Абманулі вас?!»

«Не, Калян сваю плітку разбіў. Дарагая, сук.... Вобшчем, вышчиталі з нас».

«Харашо, што хоць што-та заплацілі», — не вельмі радасна кажа мама.

«А тут мы на канцэрт хадзілі (паказвае на саркафаг рэспублікі). Група какая-та із Расіі. Ні помню. Па 450 тысяч білеты».

«Па 450 тысяч?!!!»

«Да, но мы не плацілі, пашлі на халяву. Долга аб'ясняць, карочэ, так вышла».

«Ну, тагда харашо».

«А тут з Таняй на лодке каталісь, не панравілась (паказвае на Свіслач). А з Насцяй на веласіпедах. Падходзім такіе к мужыку, а он нам — 35 тысяч. А мы такія — дорага. А он нам — бірыце за 20, людзей сёння мала».

«Паехалі?»

«Да, Насця два раза ўпала. Сначала я в нiё врэзался, а патом ана сама — не рашчытала на павароце і ў кусты — дыдых! Га-га!! Каталісь аж в Серэбранку, назад чучуць апаздалі, но мужык не крычал. Сам жэ сказал — людзей і так мала».

«Ну, правільна».

«О, БНТУ! Лёшка так і не кончыл семестр, выгналі!»

«А што хацець, сынок? Зачем вабшчэ было пастулацы, еслі мазгоў нету?»

«А тут мы на піва хадзілі. Тожэ смешной случай. Піва кончылась. Так мы фісташкі заказалі. А афіцыантка нам здачу прынесла... в чэтырэ раза больше, чем мы за фісташкі должны былі заплаціць. Ну, мы такія сідзім — што дзелаць? А Насця такая гаварыт: біжым быстрэе, пака не разабралісь! Га-га-га!»

«Ну, правільна! Еслі не навучылась правільна шчытаць, то что ей хацець. Маладцы! Ой падаждзі, званят. Ало! Я ў Мінске, у сына. Заўтра буду. Ага, ну давай. Ой, пастой. А што там заўтра за ўрокі ў меня, пасматры, пажалуста, в расписании. Перэзваніш? Ну, давай, спасіба!»

## ФУТБОЛ

### Беларусь — Японія




**15 кастрычніка ў Жодзіне** адбудзецца таварыская гульня паміж нацыянальнымі зборнымі Беларусі і Японіі. Пачатак а 15:15. Білеты — 20-25 тысяч рублёў.

## ХАКЕЙ

### Супраць харватаў

Працягваецца рэгулярнае першынство КХЛ па хакеі. Мінскае «Дынама» згуляе **9 кастрычніка** з харвацкім «Медвешчакам». **11 кастрычніка** — «Дынама» супраць маскоўскага «Спартака». Пачатак абедзвюх гульняў а 19. **13 кастрычніка** — «Дынама» супраць украінскага «Данбаса». Пачатак а 17.

## ГАНДБОЛ

### «Дынама» — «Вакер»

**Ліга чэмпіёнаў у Мінску.** «Дынама» прымае швейцарскі «Вакер». Пачатак 10 кастрычніка а 19. Палац спорту (пр.Машэрава, 4).

## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі» — «Чырвоны Кастрычнік»

**Першая гульня «Цмокаў»** у Адзінай лізе ВТБ дома. «Цмокі» — «Чырвоны Кастрычнік» (Валгаград). Пачатак 14 кастрычніка а 19.

## ІМПРЭЗЫ

### Вандраванні Радзівіла Сіроткі

**З 29 кастрычніка да 3 лістапада ў Тэатральнай зале Нясвіжскага палаца** пройдзе музычна-тэатральная імпрэза «Вандраванні Радзівіла Сіроткі», якую ладзяць Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» і Музычны дом «Класіка». Драматычны акцёр Юрый Жыгамонт і артысты ансамбля старадаўняй музыкі «Кантабіле» паўстаюць у вобразах прыдворных музыкантаў, кіраўніка і ўдзельнікаў знакамітай Нясвіжскай капэлы.

### Гісторыя ў падзеях і малюнках

**14 кастрычніка а 18-й на ТБМ (Румянцава, 13)** пройдуць заняткі гістарычнай школы з Алегам Трусавым «Гісторыя ў падзеях і малюнках».

### На пачатку маўчання

**10 кастрычніка а 19-й у галерэі «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а)** — прэзентацыя паэтычнай кнігі Валерыя Дубоўскага «На пачатку маўчання». У вечарыне возьмуць удзел Уладзімер Арлоў, Валеры Дубоўскі, Сяргей Законнікаў, Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч, Пётра Садоўскі, Аксана Спрынчан, а таксама Валянціна Лузіна (у былым намеснік старшыні Ашмянскага райвыканкама, дэпутат палаты прадстаўнікоў).

## КАНЦЭРТЫ

### Sounduk

**10 кастрычніка а 19-й у Маладзёжным тэатры эстрады** — выступае Sounduk.

### Творчая сустрэча

**10 кастрычніка а 19-й у рок-бары «Крылья» (Даўгаўбродская, 24)** — творчая сустрэча Аляксандра Памідорава і Фёдара Жываляўскага («Голая Манашка»).

### Стэнлі Джордан

**11 кастрычніка а 20-й у джаз-клубе «Спяваючыя фантаны» (Кастрычніцкая, 5)** — канцэрт ф'южн-гітарыста Стэнлі Джордана.

### Мы любім Бітлз

**13 кастрычніка а 18-й у клубе «Мулен Руж» (Кальварыйская, 1)** — трыб'ют-фэст у гонар дня народзінаў Джона Ленана. Бяруць удзел Apple Tea, Flat, The Apples і Bulba Fusion.

### B:N

**13 кастрычніка а 19-й у клубе Re:public (Прытыцкага, 62)** — канцэрт рок-гурта :B:N: з прэзентацыяй сінгла і лепшымі песнямі. Пры ўдзеле гурта Nizkiz.

### Князь Мышкін

**17 кастрычніка а 19-й у Музеі Азгура (Азгура, 8)** — канцэрт «Князя Мышкіна» пры ўдзеле Сяргея Долгушава.

### Палескія песні

**17 кастрычніка а 19-й у Музеі ЗАзгура (Азгура, 8)** — праграма «Палескія песні». Бяруць удзел «Князь Мышкін» і Ірэна Катвіцкая.

### Канцэрт памяці Якава Навуменкі

**17 кастрычніка а 19-й у Беларускай дзяржаўнай філармоніі** — канцэрт памяці Якава Навуменкі.

### Поры года

**18 кастрычніка а 19-й у Касцёле Святых Сімяона і Алены (Савецкая, 15) і 20 кастрычніка а 19-й у кангрэс-холе Прэзідэнт-гатэля (Кірава, 18)** — канцэрт «Поры года» Антоніа Вівальдзі.




## ВЫСТАВЫ

### Рэтраспектыва

**Да 12 кастрычніка ў малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава твораў замежных аўтараў — удзельнікаў міжнароднага пленэра па кераміцы «Рэтраспектыва».

### Падарожжа ў часе

**Да 26 кастрычніка ў Нясвіжскім палацы** працуе выстава «Падарожжа ў часе», на якой можна пазнаёміцца з калекцыямі камінных, насценных, настольных, кішэнных і наручных гадзіннікаў XVII-XX стст.




### Бардаўская восень

Цягам трох вечароў (25-27 кастрычніка) у Бельску Падляшскім ды Беластоку будуць гасцяваць найлепшыя беларускія выканаўцы, якія прадстаўлялі сваю творчасць на «бардаўскай» сцэне ў два апошнія дзесяцігоддзі. У пятніцу, 26 кастрычніка, прадставяць сябе ўдзельнікі конкурснай часткі з Польшчы і Беларусі. Таксама ў пятніцу на фестывальнай сцэне выступяць Паліна Рэспубліка, гурт Handmade і Віктар Шалкевіч. У часе суботняга канцэрта даведаемся, хто пераможа ў пятнічным конкурсе. Таксама выступяць Re1ikt, Sounduk, ILO & friends ды Лявон Вольскі. Некалькі гадоў «Бардаўская восень» гасцюе ў сталіцы Падляшша —Беластоку. Сёлета ў новым будынку Падляшскай Оперы і Філармоніі прадставяць сябе пераможца Grand Prix ды госці фестывалю: Bosae Sonca, ILO & friends ды Зміцер Вайцюшкевіч пад акампанемент слыннага W-Z Orkiestra. Як і ў папярэднія гады, «Бардаўская Восень» будзе гасцяваць таксама ў Гарадку (пятніца), Гайнаўцы (нядзеля) ды ў Цэнтры адукацыі ды прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах-Дзенцялова(панядзелак). На фестывальную мапу ўпершыню патрапяць і Дубічы Царкоўныя (нядзеля).

## ТЭАТРЫ

### 10 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Набука»

### 11 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»
**Беларускай драматургіі** — «Купала. Кругі раю»
**Оперы і балета** — «Сэрэнада. Шэсць танцаў»

### 12 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Дарога на Віфлеем»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Оперы і балета** — «Кармэн»

### 13 кастрычніка

**Лялек** — «Марозка»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Беларускай драматургіі** — «Два чароўныя парасоны»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок, альбо Яшчэ адна калядная гісторыя…»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»

### 15 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — «Тры Жыззлі»
**Оперы і балета** — «Аіда»

### 16 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Оперы і балета** — «Тамар. Шэхеразада»

### 17 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Гуляйма ў жабянятаў»
**Оперы і балета** — «Травіята»
**Купалаўскі** — «Офіс»
**Юнага гледача** — «Пан міністар»

### 18 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Оперы і балета** — «Вітаўт»
**Юнага гледача** — «Маленькі лорд Фаўнтлерой»
**Лялек** — «Ладдзя Роспачы»

### 19 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Малыш і Карлсан, які жыве на даху»
**Купалаўскі** — «Танец мары»
**Лялек** — «Алека. Балеро»
**Юнага гледача** — «Казка чароўнага леса»
**Оперы і балета** — «Чыпаліна»
**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»

### 22 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Оперы і балета** — «Бальмаскарад»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 23 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

### 24 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»

### 25 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Хэпі Валентайн!»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Лялек** — «Ладдзя Роспачы»

## КІНО

### У адкрытым космасе

Гравітацыя
Фантастыка, трылер
Рэжысёр: Альфонса Куарон
У ролях: Сандра Балак, Джордж Клуні
ЗША, Вялікабрытанія, 90 хв.

Група навукоўцаў і астранаўтаў на чале з Мэтам Кавальскі займаецца абслугоўваннем станцыі ў адкрытым космасе. Але здараецца катастрофа: з-за абломкаў, што рухаюцца па нечаканай траекторыі, станцыя і шатл разбітыя, большасць каманды гіне. У жывых застаюцца толькі доктар Раян Стоўн і капітан Мэт Кавальскі, якіх выкідвае ў адкрыты космас. Цяпер ім давядзецца шукаць шлях на Зямлю самастойна, без сувязі і дапамогі.

Рэжысёр Альфонса Куарон, вядомы антыўтапічным «Дзіця чалавечае», стварыў стужку аб мужнасці. Пра тое, як шмат можа здзейсніць чалавек, калі возьме сябе ў рукі і захоча жыць, нягледзячы на боль у яго душы. Сюжэт, безумоўна, фантастычны (на працягу фільма тры касмічныя станцыі аказваюцца амаль знішчанымі, адсутнічае сувязь, шмат ахвяр), але дзеянне на экране адбываецца глыбока драматычнае. Фактычна, гэта тэатр аднаго акцёра, зоркі Сандры Балак, разбаўлены ўдзелам Клуні ў яго звычайным амплуа вясёлага балабола. Аднак смешна падчас прагляду будзе толькі ў самым пачатку.

**Настасся Уласава**



# Кіно, дзе б'юць спецназаўцаў

У мінскіх кінатэатрах ідзе незвычайнае кіно. Цяжка зразумець, як яго прапусціла цэнзура. Здаровыя хлопцы аб'ядноўваюцца і лупяць спецназаўцаў, а супрацоўнікі спецслужбаў паўстаюць як маральныя дэгенераты. І гэта зусім не «Жыве Беларусь». Гэта стужка пра расійскіх футбольных хуліганаў «Каляфутбола».

У рэжысёра Антона Борматава атрымалася стварыць рамантычную гісторыю пра чатырох 30-гадовых хуліганаў маскоўскага «Спартака». Гэта людзі розных прафесій і сацыяльнага статусу. Сярод іх — выкладчык гісторык Цічэр, ёсць аўтаслесар Яры, бізнэсмэн Мажор. Яны збіраюцца разам, каб біць морды хуліганам іншых клубаў — «Дынама», ЦСКА, «Зеніта».

Чаму б'юцца? Цяжка патлумачыць. Гэта нават не праблемы сярэдняга класа, як у «Байцоўскім клубе» Паланіка. Хутчэй адлюстраванне супярэчлівага часу ў Расіі. «У паліцыцы я не разбіраюся, — кажа гандляр у фанклубе «Спартака». — А тут усё ясна, хто твой вораг і як яго трэба пакараць».

Расія сёння сапраўды адна з асноўных краін у свеце па «каляфутболе». Яшчэ можна адзначыць Польшчу, Сербію, Турцыю, Балгарыю. Краіны, дзе ўжо не трэба думаць аб хлебе надзённым, але яшчэ не дасягнулі ў развіцці вядучых краін. У Англіі «каляфутбол» практычна зжыў сябе. Там няма ўжо нават фанатаў у беларускім разуменні. Тое самае Германія, Іспанія. Футбольныя хуліганы праходзяць, як хвароба росту.

Дарэчы, на прэм'ерным паказе «Каляфутбола» ў Мінску адбылася сутычка паміж фанатамі «Партызана» і «Дынама». У гэтым, дарэчы, вялікае адрозненне беларускай і расійскай сітуацыі. У Расіі няма фанацкіх груповак з антыфашысцкімі поглядамі. У Беларусі ж вельмі моцная група ўка левай моладзі гуртуецца вакол «Партызана». Расійскі неанацыст Цясак можа гэта пацвердзіць. Ёсць і сярод меншых клубаў — «Оршы», «Бярозы», «Рудзенска», «Гарадзеі». Характэрна, што і правыя, і левыя шануюць Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг як нацыянальныя сімвалы краіны.

Ролю ворагаў у Расіі найчасцей адыгрываюць не антыфа, а фанаты каўказскіх клубаў. Гэтая тэма таксама была закранутая ў фільме.

Чым жа яшчэ адрозніваецца беларускі «каляфутбол» ад расійскага? Усё ж у Беларусі большасць хуліганаў — школьнікі і студэнты. Знайсці выкладчыкаў універсітэтаў значна складаней. Гэта звязана ў тым ліку з вялікім кантролем з боку спецслужбаў і міліцыі. Паверце, фанаты сутыкаюцца з гэтым не меней за апазіцыйных актывістаў.

Сексоты, несправядлівыя турэмныя прысуды, сачэнне і праслухоўванне — гэта ж тое самае з чым сутыкаюцца не толькі героі «Каляфутбола», але і апазіцыя.

У Беларусі надзвычай рэдка ўзнікаюць публічныя бойкі. Усё праз той жа татальны кантроль. Тыя, што здараюцца, хутчэй выпадковыя ці адбываюцца на матчах ніжэйшых дывізіёнаў, як было зусім нядаўна ў Навагрудку. Найчасцей недзе ў лесе. Бойкі фарматам «10 на 10 ці 20 на 20».

Што да фільма, то ён выйшаў і смешным, і шчымлівым. Добрае спалучэнне. Паглядзець варта, хоць дзеля таго, каб развеяць міф, што ўсе футбольныя фанаты — «прыматы».

**Зміцер Панкавец**







**Фірмы**

У цэнтры «Каляфутбола» лёс спартакаўскай фірмы Skullhead Crew. На фанацкім слэнгу фірмамі называюць «групіроўкі» ўнутры руху. Трапіць у фірму вельмі складана, гэта толькі для невялікай колькасці правераных людзей.

У Беларусі ёсць наступныя фірмы:

«Дынама» (Мінск) — «Нававілка», Formation7, Generation Ultra, «Адступнікі»

«Дынама» (Брэст) — Blue-white devils, «Без мазгоў»

«Мінск» — «Унія-09»

«Гомель» — «Палескі стыль»

БАТЭ — Young buzoters

СКВІЧ — «Паравоз»

«Белшына» — «Багатыры»

«Партызан» — «Хеўра», Red-white hunters

«Дняпро» — «Сям'я»

«Маладзечна» — Green-White Boys, «Жулікі»

«Хімік» (Светлагорск) — «Шэрвуд»

«Асіповічы» — Shedwill

«Баранавічы» — Suicide squad

«Нафтан» — «Грамніцы»

«Ліда» — «Сота»

## Сціслa

### Справу Гутара разгледзяць у Лазане

28 кастрычніка ў Вышэйшым спартыўным судзе ў Лазане будзе разгледжаная справа футбольнага брамніка Аляксандра Гутара. Зімой ён са скандалам перайшоў з БАТЭ ў мінскае «Дынама». Беларускі суд застаўся за Гутарам, аднак барысаўцы вырашылі падаць апеляцыю ў вышэйшую інстанцыю.

### Бразілія і Японія не будуць гуляць на Еўра

З'явілася інфармацыя, што ў Чэмпіянаце Еўропы—2010 могуць прыняць удзел нацыянальныя зборныя Аргенціны, Бразіліі, Мексікі і Японіі. Аказалася, што гэта інфармацыйны ўкід. УЕФА навіну абвергла.

### Алімпійскі агонь двойчы патух у Маскве

Падчас прабегу на Краснай плошчы агонь перастаў гарэць. Запаліць яго атрымалася толькі дзякуючы гледачу. Праз пару дзён агонь зноў патух. Алімпіяда-2014 пройдзе ў Сочы.

### Парфяновіч узначаліў зборную Расіі

Уладзімір Парфяновіч стаў галоўным трэнерам зборнай Расіі па веславанні на байдарках і каноэ. Парфяновіч — трохразовы алімпійскі чэмпіён. У Беларусі ён быў у апазіцыі да ўлады, дэпутатам парламента, доўга не мог знайсці працу. «Я нават дворнікам не мог уладкавацца», — сказаў Парфяновіч.

### Грабоўскі ва ўдары

Сезон у НХЛ пачаў толькі адзін беларускі хакеіст — Міхаіл Грабоўскі. У трох матчах за «Вашынгтон Кэпіталз» ён набраў 5 пунктаў (3 галы + 2 перадачы).

### Канадцы атрымалі дазвол гуляць за Беларусь

Хакеісты мінскага «Дынама» Джэф Плат і Кевін Лаланд атрымалі дазвол выступаць за нацыянальную зборную Беларусі. Канадцы прынялі рашэнне гуляць за Беларусь яшчэ ў 2009 годзе, а ўвесь гэты час чакалі на каранцін.

**ЗП**

# Доктар Стальны Молат

**Уладзімір Клічко** пацвердзіў званне чэмпіёна свету па боксе сярод прафесіяналаў.



5 кастрычніка ў Маскве ён перамог расійскага багатыра Аляксандра Паветкіна. Украінец абараніў у 15-ы раз званне чэмпіёна свету, а вось для Паветкіна — гэта першая параза ў прафесійнай кар'еры.

Клічку 37 гадоў, ён нарадзіўся ў знакавы для беларусаў дзень — 25 сакавіка. Нарадзіўся Клічко ў Казахстане ва ўкраінскай сям'і. У 1996 годзе стаў алімпійскім чэмпіёнам у Атланце. У гэтым жа годзе ён разам з братам Віталём дэбютаваў у прафесійным спорце.

У аматарскім боксе спартсмены выступаюць у майках і шлемах, у прафесійным — без іх. У пальчатках у аматарскім боксе нельга сціснуць руку ў кулак, таму ўдары атрымліваюцца менш магутныя, чым у прафесійным.

У прафесійным боксе меней боек, але большыя грошы. Гэта нібыта вышэйшая ліга. Таму ўсе імкнуцца сысці з аматараў. Адзіны мінус — немагчымасць удзельнічаць у Алімпіядзе.

Браты Клічко ніколі не біліся паміж сабой. Хоць многім хацелася б паглядзець, хто з іх мацнейшы. Цікава, што ў адрозненне ад большасці беларускіх спартоўцаў, браты Клічко не адмяжоўваюцца ад палітыкі. У час Аранжавай рэвалюцыі яны былі на кіеўскім Майдане і падтрымалі Віктара Юшчанку.

Віталь узначальвае сёння партыю «Удар», якая мае 42 месцы ў Вярхоўнай Ра-дзе. Прамаўляюць яны таксама па-ўкраінску, хоць гэта і даецца ім нялёгка. Клічко ва Украіне — усенароднаЛюбімыя героі.

Варта заўважыць, што ў апошнія гады ў прафесійным боксе дамінуюць выхадцы з постсавецкай прасторы, хоць зусім нядаўна найлепшыя пазіцыі мелі амерыканцы (Тайсан, Холіфілд). Беларусы пакуль што адстаюць ад суседзяў. Хаця Белы Воўк Андрэй Ляховіч быў чэмпіёнам свету не так даўно.

**ЗП**

**Уладзімір Клічко**

Рост — 198 см, размах рук — 206 см. Мянушка — Доктар Стальны Молат (Dr. Steelhammer). Мае чэмпіёнскі пояс паводле наступных версій: WBA, IBF, WBO, IBO, The Ring. Правёў 64 баі, перамог у 61.



У Дзень сталых людзей у Парку Горкага ў Мінску былі зладжаныя танцы.



Здымак зроблены перад палацам прэзідэнта Бразіліі. Карэнныя жыхары Бразіліі выступаюць супраць правіл размежавання тэрыторый. Праз гэта індзейцы правялі тыднёвыя акцыі пратэсту па ўсёй краіне.



Беларус Макс Мірны ў пары з румынам Хорыя Тэкау выйграў адкрыты чэмпіянат Кітая па тэнісе. Гэта 48-ы тытул Мірнага ў парным разрадзе.



## Анекдоты і жарты

* * *

— У Пугачовай і Галкіна нарадзілася двойня!

— А хто з іх нарадзіў?

* * *

— Вось, купілі дачу для адпачынку.

— Ну і як адпачываеце?

— Калі на дачу не ездзім...

* * *

Грамадская рада пры БТ пастанавіла суправаджаць навіны на тэлеканалах закадравым смехам.

* * *

Найлепшы спосаб захаваць грошы — нікому не казаць, што яны ў цябе ёсць.

* * *

Чаму храпяць мужчыны? Усё проста — так яны адганяюць ад сваіх жанчын дзікіх звяроў.

* * *

Добры дзень! Вы патэлефанавалі ў ваенкамат. Калі жадаеце служыць у войску — націсніце «зорачку». Калі не жадаеце — націсніце «краты».

* * *

Жыццёвая мудрасць — вопратку трэба набываць пад колер поўсці вашага ката.

* * *

Казкі — гэта страшныя гісторыі, якія клапатліва рыхтуюць дзяцей да чытання газет і прагляду ТБ.

* * *

Кампанія Apple рыхтуе падарунак для жанчын: іФен з іЕнавым азанатарам.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Гады два таму газеты пісалі, што ў Амерыцы памёр мільянер Яцкевіч** і пакінуў па сабе 16 мільёнаў. У скорым часе знайшоўся яго сваяк, пастаянны жыхар Свянцян, нібыта родны брат нябожчыка. Ці ён запраўды быў братам напэўна сказаць нельга. Новаму багачу пазычалі ўсе грошы, кармілі і паілі на рахунак будучых мільёнаў. І вось гэтымі днямі знайшлі Яцкевіча нежывога пры дарозе. Запіўся. Што будзе з амерыканскімі мільёнамі, невядома.

**«НН». №42. 1913.**

**Другая Няміга.** Рандзілаўшчыну, дзе ў псіханеўралагічным дыспансеры згарэў 31 чалавек, даволі цяжка знайсці. Міліцыя на тэрыторыю не пускала, але паводзілася досыць міралюбна. Наперадзе было відаць гарэлішча, абнесенае бел-чырвоным пасам. Насельніцтва дыспансера прыбірала лісце.

**«НН». №38. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 8047. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 08.10.2013.
Замова №4360.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13038

**Шаноўныя чытачы! Наступны нумар «НН» выйдзе 23 кастрычніка**